КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 22 (343) ◂ 7 чэрвеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**Я НЕ ЗАРАБЛЯЮ 500 ДОЛАРАЎ**

Стар. 6

**ПІЯР НА КВАДРАТНЫМ МЕТРЫ**

Разнос, які ўчыніў Аляксандр Лукашэнка кіраўнікам будаўнічай галіны, — больш піяр, чым рэальная спроба навесці парадак з жыллём грамадзян

Стар. 5

**ТУРЭЦКІЯ ПАРАЛЕЛІ ДЛЯ СНД**

«Што Стамбул, што Масква — толькі барацьба дае правы!» — такім лозунгам адрэагавала на падзеі на Басфоры расійская апазіцыя.

Стар. 12

**СПЕКТАКЛЬ, ЯКІ ЧАКАЛІ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ**

Стар. 14

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАСПЕЦЬ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА II ПАЎГОДДЗЕ**

▸ З НАГОДЫ

## НАФТА — ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ

*Сяргей ПУЛЬША*

**Канец месяца быў вельмі багаты на падзеі. Лукашэнка лётаў у Астану для размоў з Назарбаевым і Пуціным. Але больш выніковай стала ягоная сустрэча з прэм’ерам Расіі ў Мінску. Мядзведзеў так казаў пра ЕЭС, што беларускі кіраўнік быў проста ў захапленні.**




А Мядзведзеў пры гэтым проста паведаміў, што ў выпадку стварэння ЕЭС Расія гатовая адмовіцца ад эканамічных бар’ераў і тарыфнага рэгулявання з краінамі — удзельніцамі ЕЭС. «Наша інтэграцыйная структура патрабуе адмовы ад эканамічных бар’ераў. Гэта вельмі цяжка, але, калі мы хочам інтэграцыю, нам прыйдзецца гэта зрабіць, нават нягледзячы на тыя страты, якія панясуць эканомікі нашых краінаў. У Расіі гэта разумеюць і гатовыя несці страты, разумеючы, што канцавы вынік будзе яшчэ лепш», — сказаў Мядзведзеў аб стварэнні ЕЭС з 1 студзеня 2015 года. Пра якія менавіта вынікі і страты ідзе размова, Мядзведзеў тактоўна не ўдакладніў.

Але Аляксандр Лукашэнка ўхапіўся за гэтыя словы, нібы тапелец за выратавальны круг. Ён адразу ж заявіў, што Беларусь будзе атрымліваць нафту ад Расіі па ўнутрырасійскіх коштах, і што «максімум да 1 студзеня 2015 года практычна ўсе тарыфныя абмежаванні, у тым ліку ў нафтавай сферы, будуць знятыя».

Канешне, тут Лукашэнка, як кажуць, у сваім амплуа. З перапрацоўкі мільёна тонаў расійскай нафты Беларусь, па падліках эканамістаў, мае да 500 мільёнаў долараў. Канешне, пры зніжэнні кошту на нафту і вольным продажы яе за мяжу, без «тарыфнага» вяртання мытных пошлінаў Расіі наша краіна проста расквітнее. Таму менавіта адмена «нафтавага тарыфу» найперш і найбольш важная для «беларускага эканамічнага цуду».

Але ж Лукашэнка паспяшаўся з пляcканнем у ладкі. Па-першае, Мядзведзеў нічога не абяцаў. Заўважым, што, кажучы пра тарыфы, ён ані словам не абмовіўся наконт таго, у якой галіне гэтае тарыфнае рэгуляванне можа быць знята. Па ўмаўчанні, можна, канешне, зразумець, што гэта будзе тычыцца і нафты. Але ж, па-другое, «разумець», не значыць «зрабіць». Магчымасць зняцця тарыфаў — гэта не зняцце тарыфаў. Так што радавацца вельмі рана.

Ёсць і «па-трэцяе», што адзначаюць шмат якія эксперты. Справа ў тым, што ў нас няма праблемаў з дамоўленасцямі. Вялікую праблему для нас складаюць не самі дамоўленасці, а рэалізацыя гэтых дамоўленасцяў. Варта толькі парыцца на прасторах інтэрнэта, і мы заўважым, што «няма нічога новага пад сонцам».

Прыкладам, у 2003 годзе прэзідэнты Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны дамовіліся падпісаць пагадненне пра Адзіную эканамічную прастору. Пагадненне было скіраванае на правядзенне ўзгодненай эканамічнай палітыкі, адным з накірункаў якіх было стварэнне адзінай рэгулюючай міждзяржаўнай незалежнай камісіі па гандлі ды тарыфам. Дзесяць гадоў прайшло — і што ў нас з гандлем і тарыфамі? Зноўку вяртаемся да пытання?

Гэта толькі адзін прыклад, а колькі іх было за нашу гісторыю адносін з Расіяй! І ў межах Саюзнай дзяржавы, і ў межах ЕЭП, і ЕўрАзЭС, і Мытнага саюза… Зараз — ЕЭС. Колькі яшчэ будзе?

Варта зазначыць і тое, што, калі Мядзведзеў казаў пра тарыфы, ён казаў «нам». «Нам» — гэта значыць, не толькі Расія. І Беларусь, і Казахстан.

Што ж Расія ў чарговы раз можа «адцяпаць» у Беларусі? Найперш, эксперты кажуць, што ў абмен на зняцце тарыфаў Расія будзе яшчэ раз прыспешваць «сінявокую» з прыватызацыяй «фамільнага срэбра». Але Расія патрабуе гэта ўвесь час. Пакуль не вельмі паспяхова.

А вось што тычыцца тарыфаў, то тут, сапраўды, патрабаваць ёсць чаго. Як ні дзіўна, Беларусь доўга і даўно «пракідвае» бліжэйшага стратэгічнага партнёра і саюзніка на сваім рынку. І Расія таксама даўно незадаволена гэтым.

Выглядае гэта не вельмі гучна. Усё ж гэта не «малочныя», «газавыя», альбо «цукровыя» войны, але ж… У свой час Мінэканомразвіцця Расіі падрыхтавала спецыяльны даклад аб тым, як дыскрэдытуюцца расійскія тавары на міжнародных рынках. Лідарам па дыскрымінацыі стала саюзная Беларусь. «Сінявокая» прыняла 23 самыя розныя дыскрымінацыйныя меры ў адносінах да расійскіх тавараў, пачынаючы ад спецыяльна складзеных умоваў тэндэраў дзяржзакупак, па якіх у першую чаргу набываюцца айчынныя ды «імпартазамяшчальныя» тавары, і заканчваючы негалоснымі распараджэннямі мясцовых органаў улады дырэктарам крамаў прыхаваць расійскі тавар у якое-небудзь цёмнае месца, каб яго не было бачна на паліцах. Дарэчы, на другім месцы апынуўся «варожы» ЕС, з усяго толькі 17-ю мерамі.

Са стварэннем Мытнага саюза нішто не змянілася. Паводле дадзеных за 2012 год, у Беларусь было пастаўлена з Расіі толькі 2,1 тысячы трактароў, тады як з Беларусі ў Расію — 59,5 тысячы. «Росаграмаш» паскардзіўся з гэтай нагоды ў Еўразійскую эканамічную камісію. У скарзе гаворыцца, што Беларусь праводзіць конкурсы на закупку сельгастэхнікі такім чынам, каб пераможцам выступіла беларуская кампанія. З падобнымі прэтэнзіямі выступіў і адзін з найбуйнейшых расійскіх перапрацоўшчыкаў рыбы «Вічунай-Русь». На іх думку, з-за таго, што ў Беларусі дзейнічаюць абмежаванні на імпарт рыбных вырабаў, доля расійскіх кампаній на беларускім рынку рыбы не перавышае 10%. У 2009–2010 гадах пра падобныя праблемы заяўлялі вытворцы расійскіх камбайнаў.

У той жа час Расія ўступіла ў СГА, чым спарадзіла частковую страту расійскага рынку для беларускай сельгастэхнікі: забітыя трактарамі склады МТЗ таму яскравы доказ. З таго ж плану і распараджэнне Лукашэнкі прадаваць тэхніку айчынным калгаснікам з адтэрміноўкай і ў крэдыт. А калі мы парытэтна запусцім на наш рынак расійскіх вытворцаў камбайнаў ды трактароў, ці не прыйдзе гамон нашаму МТЗ?

Мары Лукашэнкі пра нафту могуць пусціць пад адхон пару-тройку дзясяткаў беларускіх прадпрыемстваў. Калі, канешне, кіраўнікі Расіі і Беларусі, ачомаўшыся, не тарпедуюць і гэтыя пагадненні.

ПАМЯЦІ КАЛЕГІ

# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ЮРАСЬ БУШЛЯКОЎ

Генадзь КЕСНЕР

**Пасля невылечнай хваробы 4 чэрвеня пакінуў гэты свет вядомы журналіст і філолаг, дый проста вельмі добры і чароўны чалавек Юрась Бушлякоў. Менш за тыдзень да скону — 29 мая — яму споўнілася ўсяго толькі сорак гадоў.**



Юрась скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта з чырвоным дыпломам, з цягам часу стаў адным з найдасведчаных у свеце беларусістаў. Ён не планаваў быць журналістам, але ў 1995 годзе воляю лёсу апынуўся на «Радыё 101,2». Яго чароўнаму аксамітнаму барытону маглі пазайздросціць прафесійныя дыктары і мадэратары радыёэфіраў. Голас Юрася запамінаўся ад першага слова.

Яго прысутнасцю ў эфіры і файнай журналісцкай працаю пасля гвалтоўнага закрыцця ўладамі 1 верасня першай беларускамоўнай незалежнай FM-станцыі ганарыліся першае Радыё Рацыя (1999–2002), а потым да апошняга зямнога ўздыху нашага калегі — Радыё Свабода. Менавіта Юрасю Бушлякову даверылі зачытаць апошні развітальны зварот калектыву «Радыё 101,2» да слухачоў у апошні дзень вяшчання 31 жніўня 1996 года.

А яшчэ Юрась — выкладчык, навуковец, даследчык — сапраўдны філолаг. Не падымаецца рука напісаць — быў. Ён ёсць. У стужках, відэазапісах, на фотаздымках. Чалавек, адданы Беларусі на ўсю сваю сціплую постаць і ў той жа час найшырачэйшую душу. Чалавек, для якога ў дачыненні да сяброў ці калегаў не існавала слова «не». Якому не ўласцівыя злыя позіркі, які ніколі не павышаў голас, які ніколі і нікому не выдаваў свайго незадавальнення ці раздражнення. Чалавек — прафесіянал найвышэйшага гатунку, грунтоўны, шчыры, разумны. Можа падацца, што гэта проста дыфірамбы. Не. Гэта праўда. І гэта могуць пацвердзіць усе тыя, хто хоць раз сутыкаўся з Юрасём па жыцці.

Беларуская журналістыка страціла таленавітага, шчырага і адданага свайго працаўніка. Беларуская філалогія — таленавітага навукоўца і даследчыка. Сябры страцілі чалавека, на плячо якога можна было абаперціся ў любы момант і пры любых абставінах. А Маці страціла Сына, які яе любіў так, як ніхто. І гэта было ўзаемна.

Шчыры, светлы чалавек, добры, усмешлівы і безадказны. Жыццярадасны і чулы, неамбітны і адказны, глыбокі і вясёлы, разумны і таленавіты. Пра такіх кажуць: пацалаваны Усявышнім у патыліцу. Гэта Юрась Бушлякоў. Не хочацца, не можацца, неяк дзіка пісаць — «быў». Не, не быў. Ён ёсць. І будзе. У сэрцах тых, хто яго ведаў і любіў. Каго ведаў і любіў ён. У сэрцах тых, хто яго слухаў і чуў. У нашых сэрцах. Бывай, Юрась. Вечная Табе памяць. І валадарства Нябеснае.

Калектыў «Новага часу» смуткуе разам з роднымі, сябрамі, знаёмымі Юрася Бушлякова, з ягонымі слухачамі і выхаванцамі.

САЛІДАРНАСЦЬ



# САЦІНТЭРН ПАТРАБУЕ ВЫЗВАЛІЦЬ СТАТКЕВІЧА

**Міжнародная няўрадавая арганізацыя Сацыялістычны інтэрнацыянал заклікала беларускія ўлады вызваліць і рэабілітаваць палітзняволеных, сярод якіх і Мікалай Статкевіч — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), якая з'яўляецца сябрам Сацінтэрна.**

Пра гэта гаворыцца ў дэкларацыі, прынятай паводле вынікаў пасяджэння камітэта Сацінтэрна для краін СНД, Каўказа і Чарнаморскага басейна, што адбылося 3–4 чэрвеня ў Тбілісі (Грузія). Дакумент апублікаваны на афіцыйным сайце арганізацыі www.socialistinternational.org.

Камітэт Сацінтэрна выказаў «абсалютную салідарнасць з народам Беларусі ў яго імкненнях да свабоды, дэмакратыі, незалежнасці і захавання нацыянальнай ідэнтычнасці». Аўтары дэкларацыі са шкадаваннем адзначылі «працяг сур'ёзных парушэнняў правоў чалавека кіруючым рэжымам» Беларусі. Яны заклікалі беларускія ўлады спыніць пераслед лідараў апазіцыі і стаць на шлях лібералізацыі.

На пасяджэнні камітэта Сацінтэрна ад Беларусі прысутнічалі Марына Адамовіч, жонка Мікалая Статкевіча, і намеснік старшыні БСДП (Грамада) Ігар Барысаў.

Як адзначаецца ў дэкларацыі, партыі — удзельнікі Сацінтэрна з краін СНД, Каўказа і Чарнаморскага басейна сабраліся разам, каб «вызначыць прыярытэты і задачы сацыял-дэмакратыі ў гэтых рэгіёнах, пацвердзіць у першую чаргу іх непахісную прыхільнасць захаванню адзінства і цэласнасці ў сусветнай палітычнай сям'і».

Паводле звестак за 2009 год, сябрамі Сацінтэрна з'яўляюцца 156 партый з 126 краін. У іх ліку 116 партый — паўнапраўных сябраў з вырашальным голасам, 26 арганізацый у статусе кансультатыўных сябраў з правам дарадчага голасу, а таксама 14 партый-назіральнікаў. Галоўным праграмным дакументам, які абвяшчае найважнейшымі палітычнымі каштоўнасцямі свабоду, справядлівасць і салідарнасць, з'яўляецца Стакгольмская дэкларацыя прынцыпаў.

Паводле БелаПАН

ТБМ

# ЛЕТНЯЯ ШКОЛА ПРАЦУЕ

**3 чэрвеня ў сядзібе ТБМ адбыліся першыя заняткі летняй гістарычнай школы з Алегам Трусавым.**

Тэма першых заняткаў была прысвечана Лівонскай вайне і яе наступствам у беларускай гісторыі. Таксама разглядана пытанне аб прычынах Люблінскай уніі і стварэнні новай тагачаснай еўрапейскай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. Былі прадэманстраваны два гістарычныя фільмы, у якіх вялася гаворка пра Мацея Стрыйкоўскага і Ясафата Кунцэвіча. Падчас заняткаў адбылася міні-віктарына, па выніках якой быў уручаны прыз — 2 дыскі Белсата «Гісторыя пад знакам Пагоні. XVII ст.».

На занятках прысутныя таксама даведаліся аб выхадзе ў свет новай кнігі доктара гістарычных навук Валянціна Голубева.

Наступныя заняткі ў школе адбудуцца 17 чэрвеня а 18-й гадзіне на сядзібе ТБМ. Тэма заняткаў «Берасцейская ўнія 1596 г. і яе наступствы».

Уваход на заняткі гістарычнай школы вольны. Запрашаем усіх жадаючых.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ФІЛАСОФІЯ СКУРАТОВІЧА

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Такіх калумністаў, як Канстанцін Скуратовіч у нашай краіне амаль няма.**

Прэзентаваную кнігу Скуратовіча "Вечнае з зялёным" можна назваць своеасаблівай хронікай найноўшай гісторыі нашай краіны. Яна са штотыднёвых аўтарскіх калонак, надрукаваных пад рубрыкай «Філасофія жыцця» ў газеце «Беларусы і рынак». Шчыра кажучы, па-добраму зайздрошчу аўтару, бо ведаю, што пісаць на працягу 10 гадоў у жанры, які лічыцца адным з самых складаных у нашай прафесіі, вельмі цяжка.

І наконт цяжкасці я нічога не перабольшыў. Умясціць свае думкі ў адну газетную калонку неверагодна складана. Асабіста я ў такіх выпадках заўсёды ўзгадваю легендарную фразу з ліста аднаго класіка другому — выбачай, няма часу пісаць коратка.

Да таго ж Канстанцін Скуратовіч піша, як дакладна падмеціў падчас прэзентацыі адзін з чытачоў, у стылі знакамітага пісьменніка і тэатральнага крытыка пазамінулага стагоддзя Улада Дарашэвіча, які вызначаўся высокапрафесійнымі фельетонамі. То бок востра, але не нахабна. Больш за тое, у кожным кароткім артыкуле Канстанціна Скуратовіча ёсць падвойны сэнс, які прымушае людзей думаць над прачытаным.

Якасць, на мой погляд, для апошніх часоў такая рэдкая, што нават можа трапіць у якую-небудзь «чырвоную кнігу» айчынай журналістыкі...

ЛІСТ

# ЗАХАВАЦЬ ГІСТАРЫЧНУЮ ЗАБУДОВУ

Марат ГАРАВЫ

**Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч дабіваецца захавання сілуэту гістарычнай забудовы Мінска. Пра гэта гаворыцца ў лісце на імя генеральнага пракурора Аляксандра Канюка.**

Астаповіч нагадаў, што яшчэ ў сакавіку аб'яднанне накіравала ў Генпракуратуру ліст аб узвядзенні ЗАТ «Стройэнерга» прыбудовы да будынка на вуліцы Ракаўскай 16 Б (гаворка ідзе пра ўзвядзенне прыбудовы для дыпламатычнага прадстаўніцтва Еўразвязу да будынку амбасады Італіі — М.Г.)

На думку старшыні таварыства, прыбудова прынцыпова змяняе аб'ёмна-планіровачную структуру, што склалася, і спосаб забудовы помніка дойлідства «Гістарычны цэнтр Мінска», стварае новую горадабудаўнічую сітуацыю, якая пазбаўляе архітэктурную каштоўнасць яе якасных характарыстык і не дазваляе праводзіць далейшыя працы ў адпаведнасці з методыкамі і матэрыяламі комплексных навуковых вышуканняў.

Усё гэта мае прыкметы парушэння пунктаў 1 і 4 артыкулу 27, артыкулу 28 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь», а таксама артыкулу 33, пункту 5 артыкулу 36, пунктаў 2, 3 і 5 артыкулу 43 гэтага закону.

Для прадухілення чарговага правапарушэння пры правядзенні прац на помніку Астаповіч прасіў спыніць працы па ўзвядзенні прыбудовы да будынка па Ракаўскай 16 Б, скасаваць узгадненні праектна-каштарыснай дакументацыі, атрыманыя па-за межамі заканадаўства, ажыццявіць праверку парадку ўзгаднення навукова-праектнай дакументацыі спецыялістамі Міністэрства культуры і сябрамі Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры.

Пасля гэтага таварыства паўторна звярталася з нагоды працягу прац на аб'екце ў Генпракуратуру і атрымала адказ ад 17 траўня, у якім начальнік аддзела па нагляду за выкананнем прыродаахоўчага і зямельнага заканадаўства Рыгор Шостак паведаміў пра адмену ў 2012 годзе папярэдніх узгадненняў праектнай дакументацыі з боку Мінкультуры і Мінскага гарадскога камітэту архітэктуры і горадабудаўніцтва, пра адкліканне экспертнага заключэння па праектна-каштарыснай дакументацыі і дазволу на выкананне будаўніча-мантажных прац. Прычым паўторнае заключэнне Мінкультуры па праектнай дакументацыі абмяжоўвала вышыню прыбудовы трыма паверхамі.

Аднак зараз працы на аб'екце не толькі працягваюцца, але вышыня прыбудовы разам з цокальным паверхам ужо дасягнула шасці паверхаў, што ў два разы перавышае ўзгодненае праектнае рашэнне.

У гэтай сітуацыі Астаповіч прасіць Канюка правесці праверку парадку выканання прац на прыбудове да будынка па Ракаўскай, 16 Б, прыпыніць будаўніча-мантажныя працы на аб'екце, прыцягнуць да адказнасці вінаватых у незаконным будаўніцтве па артыкулу 383 (самаўпраўства) Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь, прыняць рашэнне аб прывядзенні вышыні прыбудовы ў адпаведнасць з узгодненай праектнай дакументацыяй.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЧАС ДЛЯ НЕПАПУЛЯРНЫХ РАШЭННЯЎ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Лета — самы час для прыняцця непапулярных рашэнняў. Частка людзей ужо з'ехала з краіны ў адпачынак, а тыя, хто застаўся, вельмі занятыя яго планаваннем. Таму ў пэўным сэнсе ва ўлады развязаныя рукі, каб заняцца ўнутранымі праблемамі.**

Першая праблема, канешне ж, у эканоміцы. Негатыўныя прагнозы развіцця Беларусі — ужо даўно не навіна на старонках газет. Чарговы негатыў падкінуў зараз найлепшы сябра Беларусі апошнім часам — Еўразійскі банк развіцця (ЕАБР), які кіруе сродкамі Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС і фінансуе стабілізацыйную праграму ўрада Беларусі ў 2011–2013 гадах.

Паводле экспертаў ЕАБР, інфляцыя ў Беларусі ў гэтым годзе можа скласці да 30% гадавой, супраць прагнозных 12%. А вінаваты ва ўсім рост заробкаў. «Палітыка апераджальнага росту рэальнай заработнай платы над прадукцыйнасцю працы вядзе да павелічэння інфляцыйнага навеса, умацаванню рэальнага валютнага курсу і пагаршэння знешніх балансаў», — гаворыцца ў ацэнцы выканання Беларуссю ўмоў 5-га траншу крэдыту АКФ ЕўрАзЭС.

«Тэмпы інфляцыі за студзень-люты склалі 4,3% супраць 3,5% за аналагічны перыяд 2012 года. На канец лютага 2013 года ў банкаўскай сістэме ўтварылася залішняя ліквіднасць у памеры 6,5 трыльёна беларускіх рублёў», — канстатуе ЕАБР.

Каб інфляцыі ў 30% не здарылася, ЕАБР настойліва рэкамендуе ўладам Беларусі распачаць неадкладныя меры па стрымліванні ўнутранага попыту. Адной з мераў можа стаць правядзенне больш збалансаванай палітыкі павышэння даходаў насельніцтва, якое не перавышае рост прадукцыйнасці працы.

Сапраўды, рост дабрабыту, паводле афіцыйнай статыстыкі, у 20% пры павелічэнні прадукцыйнасці працы ў 5% — гэта нешта новае ў эканоміцы. І зараз, пакуль людзі думаюць пра адпачынак, самы час «замарозіць» заробак хаця б на тры месяцы. Можа, такім чынам хоць крышачку, але запаволяцца негатыўныя тэндэнцыі беларускага эканамічнага цуда. Бо нам яшчэ шосты транш крэдыту атрымліваць.

Але калі не крэдытам, то нечым іншым мы завабім грошы з Расіі. Авіяцыйная расійская база, пра магчымасць стварэння якой казаў расійскі міністр абароны Сяргей Шайгу, і што абверг Аляксандр Лукашэнка, усё ж будзе ў Беларусі. 6 чэрвеня ў «сінявокую» прыбыла група расійскіх рэкагнасцыроўшчыкаў для выбару аэрадрома для размяшчэння авіябазы.

«Як мы і дамаўляліся, ужо ў гэтым годзе з'явіцца авіяцыйная камендатура, а ў бліжэйшы час, мы спадзяемся, з'явяцца і першыя самалёты тут, якія стануць складовай часткай нашай сумеснай авіяцыйнай базы, бо ўсё гэта робіцца па ўзаемнай дамоўленасці і з прычыны неабходнасці стварэння такога падраздзялення на тэрыторыі Беларусі. Зразумела, гэта прадугледжвае дапамогу і падтрымку ў развіцці авіяцыі і ўзброеных сіл Міністэрства абароны Беларусі», — заявіў Шайгу ў Мінску.

Такім чынам, Шайгу і рыбку з'еў, і на лаву сеў. Аказваецца, авіябаза, супраць якой так пратэставалі беларускія апазіцыянеры, фармальна будзе не расійскай, а «сумеснай». Так бы мовіць, «у падтрымку развіцця» беларускага войска. Але пытанне таго, хто будзе кіраваць «сумеснай» авіябазай і хто зможа аддаваць ёй загады, Шайгу тактоўна абышоў.

Тым часам, з падачы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, нейкія змены можа зазнаць і школьная праграма. МНС выступае за вяртанне ў школьную праграму курса «Асновы бяспекі жыццядзейнасці» (АБЖ) у якасці абавязковага прадмета і ўвядзенне па ім заліку ці экзамену. Пра гэта паведаміў начальнік упраўлення нагляду і прафілактыкі МНС Уладзімір Рафальскі.

Паводле Рафальскага, ініцыятыва МНС была падтрыманая Дзяржаўным сакратарыятам Савета бяспекі, а Мінадукацыі атрымала даручэнне намесніка прэм'ер-міністра Анатоля Тозіка прапрацаваць гэта пытанне. «Упэўнены, што ў хуткай будучыні АБЖ будзе ўключана ў абавязковую навучальную праграму, і па ім будзе здавацца залік», — сказаў Рафальскі.

Паводле яго слоў, нават калі аб'ём курса будзе невялікі, ён «усё роўна вельмі важны» для дзяцей, якіх неабходна навучыць бяспечным паводзінам на вадзе, пры пажары, халадах і іншых надзвычайных сітуацыях. МНС нават гатова аказваць паслугі па навучанні, падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы выкладчыкаў курса АБЖ. Паводле слоў Рафальскага, для таго, каб весці гэты прадмет, не абавязкова атрымліваць вышэйшую пажарную адукацыю, і выкладчыку будзе дастаткова тых ведаў, якія ён атрымае цягам максімум чатырохтыднёвых курсаў.

А што, неблагая ідэя для працаўладкавання беспрацоўных! Месяц вучыся — і пажыццёва выкладаеш АБЖ! Думаю, у свеце авіябазы трэба такім жа чынам вярнуць і пачатковую ваенную падрыхтоўку. Беспрацоўных — на пару месяцаў на зборы, і хай яны потым навучаюць дзяцей, як збіраць і разбіраць аўтамат Калашнікава. Гэта, а яшчэ асновы хімічнай і радыяцыйнай бяспекі — самае карыснае з таго, што засвоіў аўтар у свой час у школе краіны Саветаў.

Пакуль МНС з Саўбезам думаюць, як ускладніць жыццё школьнікам, начальнік прадстаўніцтва Мінскага гарадскога ўпраўлення Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні Валерый Нафрановіч паведаміў, што ў гэтым годзе ў Мінску пасля працяглага перапынку адноўлена праца летніх працоўных лагераў для падлеткаў.

Па яго словах, гэтая форма летніх лагераў для школьнікаў адраджаецца пасля амаль 30-гадовага перапынку і звязана з усталяваннем узроставага цэнзу для накіравання дзяцей у загарадныя аздараўленчыя лагеры — 6–14 гадоў. «Для школьнікаў 15–18 гадоў у гэтым годзе будзе адкрыта 28 лагераў працы і адпачынку, у якія запланавана прыцягнуць 1,5 тысячы дзяцей», — сказаў Нафрановіч.

Але самае цікавае, што паведаміў Нафрановіч, гэта тое, што дзеці будуць атрымліваць заробак «у залежнасці ад магчымасцяў прадпрыемстваў і арганізацый».

У каго ёсць лішнія грошы зараз? Ды ні ў каго! Такім чынам, спасылаючыся на «магчымасці прадпрыемстваў і арганізацый» дзеткі могуць увогуле свайго заробку не пабачыць. А між іншым, без аплаты дзіцячая праца з'яўляецца прымусовай. А прымусовая дзіцячая праца — парушэнне Канвенцыі ААН аб правах дзіцяці.

Цікава, колькі дзяцей паскардзіцца потым у Камітэт па правах чалавека ААН?



ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## ДУНЯ МІЯТАВІЧ

Прадстаўніца АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч наведала Беларусь з візітам. Здаецца, такой «камізэлькі» мы не бачылі даўно.

Міятавіч сустрэлася і з беларускай журналісцкай супольнасцю, і з прадстаўнікамі ўлады. Незалежныя журналісцкія структуры плакаліся Дуні, што ім не даюць працаваць. Нічога, суцяшала Дуня, і сказала, што пагутарыла з прадстаўнікамі ўлады накont таго, што «перадумовамі любых станоўчых змен з'яўляюцца спыненне пераследу і затрымання журналістаў». Пасля «вельмі канструктыўных дыскусій, якія адбыліся 4 чэрвеня», яна спадзяецца, што падобная практыка спыніцца назаўсёды. Ужо цяпер «назіраюцца пэўныя пазітыўныя змены адносна справаў Андрэя Пачобута і Антона Сурапіна, і трэба думаць, праблемы ўсіх астатніх абвінавачванняў таксама будуць хутка вырашаныя», — сказала яна.

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей таксама паплакаўся Міятавіч. Беларускім бокам было ўзнята пытанне прымянення асобнымі дзяржавамі-ўдзельніцамі АБСЕ дыскрымінацыйных мер у дачыненні да цэлага шэрагу беларускіх журналістаў: тых, хто ўключаны ў «спісы неўязных» у Еўропу. Нічога, суцяшала Дуня, і заявіла, што беларускія журналісты павінны мець магчымасць наведваць краіны — удзельніцы АБСЕ. Але тут яна заўважыла, што «пытанне забаронных спісаў ЕС — гэта тэма, якая павінна абмяркоўвацца паміж беларускімі ўладамі і Еўрасаюзам». «Я не прадстаўляю ЕС. Гэтае пытанне павінна быць зададзенае ЕС, а не мне», — падкрэсліла Міятавіч.



## УЛАДЗІМІР СЯМАШКА

Віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка нібыта наноў нарадзіўся. 5 чэрвеня на адкрыцці выставы «Белагра» ў ААТ «Гастэлаўскае» пад Мінскам ён са здзіўленнем канстатаваў, што «ёсць пэўныя заганы ў заканадаўстве Мытнага саюза і Адзінай эканамічнай прасторы, але гэта тлумачыцца тым, што гэтыя дакументы прымаліся спешна». «Проста трэба было хутка рухацца», — сказаў Сямашка.

Пры гэтым, зазначыў ён, ад уступлення ў МС і АЭП «Беларусь, безумоўна, выйграла». «Але ёсць і пэўныя выдаткі. Напрыклад, што тычыцца сельгастэхнікі: нядаўна ў Расіі было прынята палажэнне, якое крыху дыскрымінуе пастаўкі сельгастэхнікі. Адменена, дзякуй Богу», — сказаў Сямашка.

Ён нагадаў, што 29 мая ў Астане прэзідэнтамі Беларусі, Казахстана і Расіі было прынята «самае прынцыповае рашэнне» — падпісанне Мемарандума аб стварэнні адзінага Мытнага саюза і пастаўлена задача падрыхтаваць пакет статутных дакументаў да 1 студзеня 2015 года, каб «усе дапушчаныя недапрацоўкі ліквідаваць».

Дамова аб стварэнні АЭП была дасягнутая ў лютым 2003 года. Дамова аб стварэнні Мытнага саюза была падпісаная ў кастрычніку 2007 года. Калі пяць альбо дзесяць год — гэта, паводле Сямашкі, «хутка рухацца», то што ж тады для яго «рухацца нармальна» альбо «павольна»?

## ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ



Новы раман Віктара Марціновіча «Сфагнум», рэліз якога адбыўся ў канцы мая, ставіць рэкорды па продажах.

Твор выйшаў у двух варыянтах — электроннай кнігай на рускай мове (мове арыгіналу), якая даступная на сайце 34mag.net, а таксама асобным папяровым выданнем на беларускай мове ў перакладзе Віталя Рыжкова.

«Сфагнум», апублікаваны ў выдавецтве «Кнігазбор» (серыя «Кнігарня пісьменніка»), згодна са статыстыкай «Белкнігі», за апошнія тры дні месяца стаў лідарам продажаў за май.

Кніга выклікала станоўчыя водгукі. Ганна Янкута ў рэцэнзіі на раман «Сфагнум» адзначае: «Калі ўявіць сабе кампазіцыю «Сфагнума» ў выглядзе шкілета, то гэта будзе адзін з самых добра складзеных і гарманічных шкілетаў, з якімі я сутыкалася апошнім часам у беларускай літаратуры. Агульны ход падзеяў у творы выверaны добра, напружанне дазуецца акуратна, зацягнутых эпізодаў, якія прымусілі б асабліва нецярплівага чытача пераскокваць праз абзацы, няма».

Лідзія Міхеева, разважаючы пра творчасць Віктара Марціновіча на сайце bookster.by, піша: «Галоўныя героі новага рамана Марціновіча — банальныя, але па-свойму абаяльныя гопнікі, якія ўвязваюцца ў крымінальную гісторыю, дзе выступаюць, самі таго не ведаючы, сляпымі прыладамі ў руках лёсу, які, што сімптаматычна, у рамане абарочваецца «панаехаўшым» расійскім бандыцкім капіталам».

А на сайце 34mag.net паведамляецца, што замежныя выдаўцы Марціновіча ўжо прызналі гэты раман «Карты, грошы, два ствалы» ў беларускай правінцыі», змясціўшы яго ў нішу «гангстэрскай камедыі».

▸ **АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ**

# КАРУПЦЫЯ ЯК ІНСТРУМЕНТ КІРАВАННЯ

Сяргей НІКАЛЮК

**Калі ў дэмакратычных краінах карупцыя — адхіленне ад нормы, дык у нас — базавы прынцып суіснавання дзяржавы і грамадства.**




Акрамя чыноўнікаў, наша мадэль эканамічнага развіцця ніякіх іншых суб'ектаў мадэрнізацыі не прадугледжвае. Гэта не навіна. Аднак, напэўна, далёка не ўсе чытачы НЧ задумваліся пра тое, што беларускія чыноўнікі займаюцца тэхнічным пераабсталяваннем прадпрыемстваў на факультатыўных пачатках, бо ад кіравання дзяржавай ніхто іх не вызваляў.

Разам з тым, са сваімі асноўнымі абавязкамі яны спраўляюцца, мякка кажучы, не вельмі паспяхова. Гэта не маё меркаванне. Гэта меркаванне Сусветнага банка, які штогод вызначае рэйтынг краін свету паводле паказчыкаў якасці і эфектыўнасці дзяржаўнага кіравання.

Каб вызначыць рэйтынг, выкарыстоўваюцца шэсць індэксаў (яны не сумуюцца), значэнне якіх можа змяняцца ад 0 да 100. Чым ніжэйшы індэкс, тым горшае дзяржаўнае кіраванне. Напрыклад, індэкс «Вяршэнства закона» ў Даніі — 100 пунктаў, у Афганістана — 0, у Беларусі — 14. Пагадзіцеся, недалёка мы адышлі ад дзяржавы, што знаходзіцца ў стане грамадзянскай вайны на працягу восьуж 40 гадоў.

Але індэкс «Вяршэнства закона» — гэта яшчэ не ягадка, а кветачка. Наша ягадка — індэкс «Улік меркаванняў насельніцтва і падсправаздачнасць дзяржаўных органаў» — 5 пунктаў. Так і паўстаюць перад вачамі білборды з гучным лозунгам: «Дзяржава для народа». Паводле ўмення ўлічваць меркаванне насельніцтва і быць падсправаздачнымі яму нас «апярэдзілі» толькі 9 краін з 215. У бясспрэчных лідарах тут Паўночная Карэя. Далей — Самалі і Туркменістан.

Прадмет нашага законнага гонару — стабільнасць. Эксперты Сусветнага банка ацанілі яе ў 37 пунктаў. Расію па індэксе «Палітычная стабільнасць і адсутнасць гвалту» мы абышлі амаль у два разы. На верхніх паверхах айчыннай «вертыкалі ўлады» могуць спаць спакойна: «верагоднасць рэзкіх змен, змены палітычнага курсу, дэстабілізацыі і звяржэння ўрада неканстытуцыйнымі метадамі ці з ужываннем гвалту» ў нас невялікая.

## «Откуда дать?»

Але вернемся да чыноўнікаў. Паводле індэксу «Эфектыўнасць працы ўрада», які адлюстроўвае «якасць функцыянавання дзяржаўнага апарата і працы дзяржаўных чыноўнікаў, іх кампетэнцыю, ступень іх незалежнасці ад палітычнага ціску» ,Беларусь размясцілася ў ніжняй частцы спісу — 14 пунктаў.

Звернемся па дапамогу да прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча. 28 траўня ён правёў пасяджэнне Прэзідыума Саўміна. Разглядаўся ход выканання рэспубліканскага плану мерапрыемстваў па правядзенні ў 2013-м Года ашчаднасці. Далей цытую з сайта ўрада: «Есть соответствующие планы. Это мы научились делать хорошо, но практическая, организаторская работа на местах — в облисполкомах, министерствах, на предприятиях — проводится недостаточно».

Гэта значыць, не ўсё так безнадзейна. Планы «мы научились делать хорошо». Засталося навучыцца іх рэалізоўваць. Да канца чарговай пяцігодкі час яшчэ ёсць. Важна толькі вызначыцца, хто ж гэтыя планы ў нас генеруе? Нявызначанасць паўстала на роўным месцы. 19 красавіка, выступаючы з пасланнем, наш адзіны палітык (АП) быў максімальна канкрэтны: «И главное, никто не отменял заданий по росту экономики в нынешнем году. И эти объемы прироста правительство и парламент взяли добровольно, без всякой принудиловки».

Але не паспеў, як кажуць, і певень пракрычаць, як прэм'ер-міністр адцураўся ад аўтарства: «Если смотреть с точки зрения выполнения целевых показателей, которые определены главой государства на 2013 год, я полагаю, что полученные результаты никого не устраивают».

Чыноўнікі запрэгліся ў воз мадэрнізацыі не ад добрага жыцця. «Результаты никого не устраивают». У гэтым і палягае сутнасць праблемы. З канца 2003-га і да пачатку 2007 года ўлада асаблівых праблем з рэсурсамі не адчувала. Але лепшае — вораг добрага. Гэты прынцып савецкіх кіраўнікоў мне неадназова тлумачылі на «Інтэграле» старэйшыя таварышы. Ведаюць яго і зубры беларускага менеджменту. Таму яны распачынаюць рэформы ў вымушаным рэжыме, калі замест выбару паміж лепшым і добрым застаўся выбар паміж дрэнным і вельмі дрэнным.

Зноў працытую Мясніковіча: «Откуда дать? — гэта не пытанне, гэта крык душы. — Если все сформулировано, бюджеты защищены. Эти потребительские настроения, что где-то есть казна, в которой можно просить средства, иногда не поддаются здравому смыслу».

## Чарговае прышэсце валюнтарызму

Аднак час пераходзіць ад аб'ектыўнай рэальнасці да яе аналізу. Падштурхоўвае мяне да гэтага і фармат «Азбукі паліталогіі». Традыцыйна звярнуся па дапамогу да класіка. У якасці такога выступіць амерыканскі паліталаг Рональд Інглхарт: «Індустрыялізацыя ініцыюе важны этап культурнай трансфармацыі і прыводзіць да бюракратызацыі, рацыяналізацыі, цэнтралізацыі і секулярызацыі. Развіццё постіндустрыяльнага грамадства цягне за сабой іншы яе этап — узмацненне ролі асабістай аўтаноміі і самавыяўлення <…> На індустрыяльным этапе мадэрнізацыі адбываецца вызваленне ўлады ад рэлігіі, у той час як на постіндустрыяльным — вызваленне чалавека ад усюдыіснай ўлады».

Не пашанцавала АП. Ён са сваімі поглядамі на дзяржаву і грамадства апынуўся ў непатрэбны час у непатрэбным месцы. Гэта Сталін меў магчымасць вырываць мільёны сялян са звыклага вясковага свету і пад наглядам таварышаў у скураных куртках ставіць іх да імпартных станкоў як да сцэнкі. На стадыі індустрыялізацыі такі менеджмент сябе апраўдваў. Нездарма ж Гітлер за некалькі гадзін да смерці ў сваім завяшчанні адзначыў: «Самым правильным было б пасля перамогі над Расіяй даручыць (зразумела, пад германскім вяршэнствам) кіраванне краінай Сталіну, бо ён лепш за ўсіх ведае, як трэба абыходзіцца з рускімі».

Менеджар Сталін запрасіў менеджара Форда. Так з'явіўся аўтамабільны завод у Ніжнім Ноўгарадзе. Грузавік ГАЗ-А — гэта поўны аналаг «Форда-А». На прывезеным з Германіі ў кошт рэпатрыяцыяў заводзе «Опель» быў наладжаны выпуск «Масквічоў». Ужо пры Брэжневе з дапамогай італьянцаў арганізавалі масавую вытворчасць «Жыгулёў» («Фіята–124»).

Але якія б аналагі сусветных брэндаў ні запускаліся ў серыю пад кіраўніцтвам савецкіх чыноўнікаў, тое, што атрымлівалася ў выніку, было неканкурэнтаздольным. Зрэшты, гэта і не было патрэбна. Унутраны спажывец суадносінамі кошт—якасць тавараў не цікавіўся. Не да таго яму было ва ўмовах усеагульнага дэфіцыту.

Індустрыялізацыя — гэта не станы, а працэс, які мае выразныя часавыя рамкі. У Савецкім саюзе ён завяршыўся яшчэ пры Хрушчове. Пры Брэжневе была зроблена спроба пабудаваць постіндустрыяльную эканоміку. Але без вызвалення чалавека «ад усюдыіснай улады» атрымаўся застой, які завяршыўся «найвялікшай катастрофай XX стагоддзя».

Ініцыяваная АП мадэрнізацыя — гэта спроба ўпісацца ў постіндустрыяльны свет за кошт творчай энергіі чыноўнікаў.

Аналагічную спробу Хрушчова яго наступнікі ахрысцілі «валюнтарызмам» (валюнтарызм — імкненне рэалізаваць пажаданыя мэты без уліку аб'ектыўных акалічнасцяў і магчымых наступстваў).

## Хуткасць, гнуткасць, творчасць

«О нас все в мире говорят: наши люди — добрые люди. Гости говорят — это красивая страна. Здесь практически нет коррупции. Спасибо, что так говорят. Но есть она. Ее трудно изжить, я это знаю» (Пасланне–2013).

Рэкамендую чытачам НЧ на хвіліну ўявіць прыгожую краіну, населеную добрымі людзьмі, у якой карупцыі няма, а індэкс «Улік меркавання насельніцтва і падсправаздачнасці дзяржаўных органаў» роўны 5 пунктам. Уявілі? Ну і як, валасы на галаве дыбам не ўсталі?

Калі ў дэмакратычных краінах карупцыя — адхіленне ад нормаў, дык у нас — адзін з базавых прынцыпаў суіснавання дзяржавы і грамадства. Насельніцтва, пазбаўленае магчымасці данесці да ўлады свае меркаванне з дапамогай палітычных працэдур, вымушана гэта рабіць з дапамогай працэдур карупцыйных.

Беларусам не трэба дзеля гэтага з кім-небудзь аб'ядноўвацца. Карупцыйныя адносіны выбудоўваюцца на індывідуальнай аснове і, як правіла, зводзяцца да прамога абмену. Такі абмен — своеасаблівы аналаг натуральнага абмену, засвоенага нашымі продкамі яшчэ ў дагістарычную эпоху! Але эканамічная дзейнасць — гэта, перш за ўсё, сумесная дзейнасць. Таму паміж узроўнем сацыяльнага капіталу, які характарызуе здольнасць людзей наладжваць гарызантальныя сувязі (карупцыйныя сувязі заўсёды вертыкальныя), і вытворчасцю ВУП на душу насельніцтва існуе прамая залежнасць.

У Пасланні–2013 АП нечакана загаварыў пра паскарэнне. Прыстасавацца да «стремительного, скоростного мира» ён спадзяецца з дапамогай трох патрабаванняў: хуткасці, гнуткасці і творчасці. Усе яны, натуральна, будуць спакаваны ў звыклую аўтарытарную форму. Такім чынам, на чарговы пакет патрабаванняў зверху насельніцтва будзе вымушана адказаць карупцыйнай актыўнасцю знізу. Насельніцтву без хуткасці, гнуткасці і творчасці ў барацьбе з хуткасцю, гнуткасцю і творчасцю ўлады не выжыць!

Але перамесцімся з мікраўзроўню карупцыі на яе макраўзровень, на якім яна выступае ў якасці інструмента кіравання. Тут мне ў чарговы раз патрэбная дапамога Сімона Кардонскага: «Звычайна эканоміка круціцца вакол стаўкі банкаўскага працэнта. Цэнтральныя банкі інвестуюць грошы ў эканоміку, прадаючы іх базавым банкам. Базавыя банкі прадаюць іх ужо драбнейшым банкам, павялічваючы стаўку. І калі кошт грошай памяншаецца, эканоміка пачынае развівацца больш інтэнсіўна, а калі павялічваецца — то яна пачынае стагнаваць. Але паколькі ў нас не грошы, а фінансавыя рэсурсы, якія размяркоўвае чыноўніцкі апарат, у нас фактарам, што дынамізуе эканоміку, з'яўляецца не кошт грошай, а норма адкату. Рэсурсы ж нельга раздаваць бясплатна. Вось плата за даванне рэсурсаў і называецца «адкат». Высокая норма адкату прыводзіць да стагнацыі рэсурсавай гаспадаркі, якой з'яўляецца наша эканоміка».

У якасці рэгулятара нормы адкату выступаюць рэпрэсіі. Патрэба ў новым Сталіне, якую адчуваюць прадстаўнікі «большасці», — гэта запатрабаванне ў парадку ва ўмовах мінімальнай нормы адкату. У гэтым сэнсе мадэрнізацыя, хто б і як яе ні праводзіў, здольная разбурыць раўнавагу, якая склалася як ва ўладзе, так і ў грамадстве.

ЖЫЛЛЁ

# ПІЯР НА КВАДРАТНЫМ МЕТРЫ

Сяргей ПУЛЬША

**«Ці можа слон атрымаць грыжу? — Можа, калі прымусіць яго падняць сельскую гаспадарку», — такая показка хадзіла ў савецкія часы. Зараз грыжу можа атрымаць спадар Лукашэнка, які ўзяўся за жыллёвае будаўніцтва.**



Але разнос, учынены ім у аўторак кіраўнікам будаўнічай галіны — больш піяр, чым рэальная спроба навесці парадак з жыллём грамадзян.

Піярыліся і абламалі зубы на гэтым і да Лукашэнкі. У 1961 годзе Мікіта Хрушчоў паабяцаў, што да 1980 года кожная савецкая сям'я будзе мець асобную кватэру. У 1986-м Міхаіл Гарбачоў адсунуў тэрміны надыходу камунізму на 15 гадоў, абвясціўшы лозунг: «Кожнай савецкай сям'і — асобную кватэру да 2000 года».

Праблему спрабавалі вырашыць і потым. Але нічога з гэтага не атрымалася.

Лукашэнка прывёў лічбы: з 1996 па 2012 год каля 600 тысяч сем'яў палепшылі свае жыллёвыя ўмовы. «І хоць за гэты час агульная колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася, колькасць чаргавікоў на жыллё ўзрасла з 600 тысяч у 1996 годзе да 800 тысяч у гэтым», — канстатаваў кіраўнік дзяржавы.

Шчыра кажучы, тут няма анічога сенсацыйнага. Адна мая знаёмая ў 1992 годзе нарадзіла дзіця ў інтэрнаце. Зразумела, адразу стала ў чаргу на паляпшэнне жыллёвых умоваў. Яе чарга дасюль не надышла, а яе сыну ўжо 20 гадоў. І ён таксама зараз мае патрэбу ў «паляпшэнні жыллёвых умоваў». Так што адны льготнікі проста замяняюцца (калі ўвогуле замяняюцца) іншымі.

Што ж тычыцца павелічэння колькасці такіх чаргавікоў, то тут праблема не ў тым, што больш становіцца ў чаргу. Праблема ўвогуле ў скіраванасці дзяржавы праводзіць сацыяльную палітыку. Не сакрэт, што людзі з'язджаюць з вёсак, бо там проста альбо няма працы, альбо мізэрныя заробкі. І яны пераязджаюць у горад.

Адна справа — працаваць даяркай за 1,6 мільёна рублёў у калгасе, іншая — за 2,5–3 мільёна прыбіральшчыцай у Мінску. «Аграгарадкі» праблему не вырашылі — і зразумела, чаму. Таму што трэба даць людзям не толькі жытло, балазе, усе кажуць, што «вёска паміраe», і занядбаных хат там хапае. Там трэба даць найперш дастойна аплачваемую працу. Гэтага немагчыма даць без рэформы сельскай гаспадаркі, якая зараз спрэс трымаецца на дзяржаўных субсідыях. А на рэформу «стратэгічнай галіны» адважыцца ў нас кішкі тонкія. Фермер жа не «ваюе за ўраджай», ён проста працуе, і ягоныя дасягненні не выдасі за «пераможную палітыку дзяржавы».

Людзі бягуць з вёсак у горад па заробкі (амаль як у XIX стагоддзі!), засяляюцца ў інтэрнат і становяцца ў чаргу на атрыманне жылля. Вось і ўся праўда жыцця.

У краіне (калі, канешне, верыць афіцыйнай статыстыцы), штогод узрастае колькасць пабудаваных квадратных метраў. «У вас ёсць запланаваныя аб'ёмы — 6,5 мільёна квадратных метраў. Зрабіце іх», — звярнуўся Лукашэнка да чыноўнікаў.

Зробяць, канешне, зробяць! Але 6,5 мільёна «квадратаў», — гэта жыллёвае будаўніцтва агулам. І Лукашэнку, канешне, дадуць прыгожую справаздачу, што гэтыя метры былі пабудаваныя. Але ніхто не будзе казаць пра тое, колькі з гэтых метраў прыпадае на «элітнае жыллё», «жыллё павышанай камфортнасці», «камерцыйнае жыллё», колькі з гэтых метраў пабудуюць для сябе расіяне, і колькі застанецца жылля для «чаргавікоў».

Лукашэнка абураны тым, што жыллё, пабудаванае з дзяржпадтрымкай, сталі перапрадаваць і здаваць у арэнду. А што рабіць? Крэдыты, узятыя на жыллё, аддаваць трэба, і з працэнтамі. А ўзровень заробку гэта рабіць не заўсёды дазваляе. Да таго ж, дзяржава пастаянна падкідвае «разынкі» ў выглядзе інфляцыйных дэвальвацый. Канешне, ад інфляцыі крэдытаатрымальнікам толькі плюс: узялі адну суму, а аддаваць меншую. Аднак аддаваць яе трэба з тых самых «інфляцыйных» заробкаў. Гэта што тычыцца здачы кватэраў.

Калі ж казаць пра продаж ільготнага жытла, то тут, наадварот, менавіта ягоны няпродаж, на думку эканамістаў, не дазваляе зніжаць кошты на кватэры.

Дзеянні ўладаў тут супярэчлівыя. З аднаго боку, трэба паказаць: жыллё мы будуем. Але з іншага — гэтае жыллё забараняецца прадаваць ці здаваць у арэнду. То бок, спыняецца механізм прапановы жылля на рынак, і прапанова гэтая абмяжоўваецца дзяржавай. А чым менш прапанова — тым больш высокі кошт на тавар, у дадзеным выпадку, на кватэры. Такім чынам, нібыта клапоцячыся пра кошт «квадрату», дзяржава робіць усё, каб гэтыя кошт заставаўся высокім.

Робіцца ўсё, каб пабудаванае на льготы жыллё не аказалася на другасным рынку і не аказала на яго паніжальнага эфекту.

Гэта, дарэчы, тычыцца не толькі другаснага рынку жылля, але і першаснага. Рынак наўпрост кантралюецца дзяржавай: яна вызначае попыт на жыллё колькасцю выдадзеных крэдытаў. І вызначае прапанову — праз заданні, спушчаныя па будаўнічай сферы і кантроль параметраў сабекошту жылля. Атрымліваецца, што дзяржава кантралюе рынак з двух бакоў, і мае, такім чынам, магчымасць прызначыць любы кошт «квадрата», балансуючы паміж попытам і прапановай. Роўны хоць сярэдняй зарплаце, хоць ніжэй за яе.

А вось чаму гэтага не адбываецца — гэта ўжо пытанне да дзяржавы.

Чыноўнікі ўрада паскардзіліся Лукашэнку, што нізкія тэмпы будаўніцтва жылля абумоўленыя высокімі працэнтнымі стаўкамі па рублёвых крэдытах і адмовай Нацбанка аднавіць жыллёвае крэдытаванне грамадзян у замежнай валюце. Лукашэнка ў адказ заявіў ім, што «стаўка ў Ермаковай і ў вас у руках».

Нацбанк жа не хоча паўтору крызісу 2011 года. Ермакова не жадае абцяжарваць народ валютнымі пазыкамі, бо, па-першае, валюту на гэтыя крэдыты браць няма адкуль, а па-другое, у выпадку дэвальвацыі насельніцтва загразне ў пазыках і працэнтах. Што, дарэчы, вельмі слушна. З іншага боку, па словах Ермаковай, калі планавалі аб'ёмы будаўніцтва на гэты год, то прадугледжвалася, што банкі павінны выдаць на камерцыйных умовах крэдытаў на 650 мільярдаў рублёў. «За пяць месяцаў выдадзена 880 мільярдаў рублёў. Гэта значыць, грамадзяне ўзялі гэтыя крэдыты», — заявіла Ермакова.

«Зразумела, што да бясконцасці так працягвацца не можа. Патрэба ў даступным жыллі ўзрастае, а дзяржаўныя рэсурсы не бязмежныя», — заявіў Лукашэнка. Але выглядае на тое, што вырашыць сітуацыю ўлада плануе двума савецкімі метадамі: «адняць і падзяліць», а таксама праграмамі і лозунгамі.

Наўрад ці такімі метадамі праблема вырашальная. Трэба шукаць іншыя падыходы да вырашэння «кватэрнага пытання», якое так псуе людзям жыццё.

Дарэчы, а што ў нас з ужо два дзесяцігоддзі планаванай іпатэкай?

НОВЫЯ ПРАВІЛЫ

# МЫТНЯ СКАСАВАЛА «ЗЯЛЁНЫ» КАЛІДОР

Сяргей ПУЛЬША

**У той час, калі Беларусь мае намер значна павысіць паток замежных турыстаў на Чэмпіянат свету па хакеі, перашкоды гэтаму стварае беларуская мытня. З 4 чэрвеня ўступілі ў сілу новыя крытэры перасячэння беларускай мяжы, па якіх будуць адпраўляць на «чырвоны» калідор.**

Навацыя вельмі дзіўная. У Беларусь увогуле нічога нельга правозіць без пільнага нагляду. У катэгорыю падазроных не трапляюць хіба толькі самотныя вадзіцелі з пустым, у прамым сэнсе гэтага слова, аўтамабілем: нельга везці нават чамадан.

Зараз у «чырвоны» калідор патрапляюць аўтатранспартныя сродкі па пяці асноўных крытэрах. Гэта: тыя аўтамабілі, якія перасякалі дзяржаўную мяжу Беларусі больш за адзін раз на працягу васьмі сутак; у якім знаходзіцца чатыры і больш асоб; у якім ёсць у салоне або багажным аддзяленні сумкі, чамаданы, пакеты, скрынкі, мяшкі, цюкі і іншыя прадметы, у якіх могуць знаходзіцца тавары, буйнагабарытныя тавары працяглага карыстання, у тым ліку былыя ва ўжыванні; транспартныя сродкі, якія маюць восем і больш пасадачных месцаў, уключаючы вадзіцеля, а таксама грузапасажырскія і грузавыя транспартныя сродкі; транспартныя сродкі, зарэгістраваныя на тэрыторыі замежнай дзяржавы.




Пры выяўленні ў «зялёным» калідоры транспартнага сродку, які адпавядае названым крытэрам, супрацоўнікам органаў памежнай службы інфармуюць службовых асобаў мытні з перадачай яму кантрольнага талона.

Што гэта азначае дэ-факта? Дэ-факта гэта азначае, што, калі сям'я з трох чалавек выехала на дзесяцідзённы адпачынак у Крым, яна павінна вяртацца адтуль праз «чырвоны» калідор, нават калі ўвогуле нічога з Крыму не вязе. Нават віна і фруктаў. Бо, зразумела, што на дзесяцідзённы адпачынак трэба браць з сабой рэчы: тыя ж купальнікі, касметыку для і супраць загару, капелюшы і панамкі. Усё гэта кладзецца ў чамадан («буйнагабарытны тавар працяглага карыстання»? Чамадан жа не на адзін год купляецца?), і па вяртанні ў «сінявокую» — калі ласка, «чырвоны» калідор і пільны мытны нагляд.

Для чаго гэта робіцца, зразумела. Ужо не ў першы раз мытнікі Беларусі заклапочаныя лозунгам «Купляйце беларускае!». Праўда, раней проста ўводзіліся абмежаванні на правоз, прыкладам, да 15 кілаграмаў фруктаў альбо да 30 кілаграмаў рэчаў. Зараз любы чалавек з чамаданам выклікае падазрэнне.

Зразумела, што тыя, хто рэгулярна ездзіць «затаварыцца» ў Вільню ці ў Чарнігаў на ўласным аўто, зараз будуць вымушаныя больш дэтальна планаваць свае паездкі. Бо чэргі на мяжы з увядзеннем інавацый значна павялічацца. «Зялёны» калідор, такім чынам, на беларускай мяжы фактычна скасаваны. Калі ёсць у багажніку заплечнік — калі ласка, на дагляд.

Але што найбольш здзіўляе ў гэтым новым палажэнні — тое, што любыя транспартныя сродкі, зарэгістраваныя на тэрыторыі замежнай дзяржавы, падлягаюць «чырвонаму» калідору, незалежна ад таго, колькі ў іх чалавек і што там знаходзіцца.

Гэта створана ў той час, калі Беларусь намагае высілкі, аж да разрыву пупка, па павелічэнні ўязнога турызму, і калі з нецярплівасцю чакае натоўпы наведнікаў Чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе. Гэткая «гасціннасць па-беларуску»: з аднаго боку, «вэлкам ту Беларусь», з іншага — узмацненне мытных працэдураў да немагчымасці.

Мала таго, што беларускія візы па кошце зашкальваюць, дык яшчэ ствараем для турыстаў чэргі на мяжы і пільны мытны дагляд.

## 16 ЧЭРВЕНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.05** Сацыяльная драма «Каліна чырвоная» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).
**10.45** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.15** Фільм-катастрофа «Экіпаж» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Анімацыйны фільм «Прынцэса і жаба» (ЗША).
**17.10** Заўтра - гэта мы!
**18.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**19.00** Гангстарскі баявік «Дзік Трэйсі» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Меладрама «Пунсовая літара» (ЗША).
**00.55** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### Н

**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** Прэм'ера. «Адпачынак з рызыкай для жыцця».
**12.25** Фільм «Вершнік без галавы».
**14.30** Фільм «Дзеці Дон Кіхота».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Асяроддзе пасялення.
**17.20** «Форд Баярд».
**18.45** АНТ прадстаўляе: «Эстрадны кактэйль».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера «Вышка».
**23.25** Міжнародны музычны фэст «Белыя ночы Санкт-Пецярбурга». Фінал.

### СТВ

**06.00** «Салдаты». Серыял.
**07.45** Міс - Мінск 2013.
**07.50** Фільм «Сем'янін». ЗША, 2000г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Міс - Мінск 2013.
**12.50** Фільм «Вяселле з пасагам». СССР, 1953г.
**15.00** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Міс - Мінск 2013.
**17.25** «Уявіце сабе».
**18.00** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Банда Кэлі». Аўстралія - Вялікабрытанія - ЗША - Францыя, 2003г.
**22.50** Міс - Мінск 2013.
**22.55** «Якія людзі!».
**23.50** Фільм «Я». Расія, 2009г.
**01.30** Дакументальны праект.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.50** Мультфільмы.
**08.50** Фільм - дзецям. «Прыгоды Бураціна» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**10.00** Пазакласная гадзіна.
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Пра мастацтва.
**10.55** Музычная камедыя «Беражыце жанчын» (СССР). 1-я і 2- я серыі.
**13.25** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Харватыя - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**15.20** Спартова-прыгодніцкі фільм «Пачатковец» (ЗША).
**18.05** Суперлато.
**18.55** Гандбол. Чэмпіянат Еўропы -2014. Адборачны матч. Славенія - Беларусь. Прамая трансляцыя.
**20.30** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**21.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Мексіка - Італія. Прамая трансляцыя.
**23.55** Пляжны футбол. Еўраліга. Першы адборачны раўнд.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Даша» (2013 г.).
**10.10** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Родная кроў».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Паразіты. Бітва за цела».
**16.05** Фільм «Пацук» (2010 г.). 2-я серыя.
**17.55** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** Фільм «Нявеста майго жаніха» (2013 г.).
**23.25** «Нядзельны вечар».

### НТВ

**06.30** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх нОравы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая передача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Следства вялі.».
**14.10** «Вочная стаўка».
**15.05** «Казнакрады».
**16.10** «Выратавальнікі».
**16.40** Дэтэктыўны серыял «Масква. Цэнтральная акруга».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**20.00** Чыстасардэчнае прызнанне.
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.45** «Жалезныя лэдзі».
**22.35** Серыял «Ліцейны».
**01.00** «Школа зласлоўя» Ток-шоў.

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.35** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 01.15** М/ф «Матчына клятва».
**13.05** М/ф «Пізанская вежа».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Дарога на выспу Пасхі».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**23.25** М/ф «Дзеці панядзелку».
**03.45** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Аляксандр Ісачоў. Майстар і Афрадыта», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**07.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**07.50** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.15** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 2 серыя.
**08.40** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 4 серыя.
**09.10** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 2 серыя.
**09.40** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 2 серыя.
**10.05** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**10.30** «Рок назаўжды», дак. фільм, 2008 г., Беларусь: 2 серыя.
**11.00** «Глыбокая вада», серыял: 2 серыя.
**11.50** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 2 серыя.
**12.20** «Завітай да мяне ў сне», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**13.30** «Кім Чэн Ір: Засакрэчаная біяграфія», дак. фільм, 2010 г., Японія–Францыя.
**14.30** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 2 серыя.
**15.20** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: ?
**16.30** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 2 серыя.
**17.20** «Праведнікі», тэлесерыял: 2 серыя.
**17.40** Без рэтушы: «Падарожжа па руінах», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**18.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**18.40** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**18.50** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія.
**19.25** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**20.30** Побач з намі.
**20.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.20** Фільматэка майстроў: «Пара асоб, малы час», біяграфічная драма, 2005 г., Польшча.
**23.05** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 2 серыя.
**00.05** Вагон.

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА [ ] НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ [ ]

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка [ ] уведомление [ ] простое [ ] заказное [ ] электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ________

Всего ________

ГАМАФОБІЯ

# ПРАТЭСТЫ Ў ФРАНЦЫІ — НАЗАД У БУДУЧЫНЮ

Алег НОВІКАЎ

**Некаторыя правыя французскія выданні разглядаюць цяперашнія пратэсты супраць аднаполых шлюбаў як паўтор падзей 1968 года.**

45 гадоў таму, у маі 1968-га, Францыя стаяла на вушах. Студэнцкія хваляванні сталі каталізатарам агульнанацыянальнага страйку і шырокага грамадскага руху за сацыяльную рэвалюцыю. Хаця ў выніку (не без удзелу Кампартыі) рэвалюцыйны энтузіязм саслабеў, Парыжскі, або Чырвоны, май (так назвалі тыя падзеі) даў зялёнае святло глабальным сацыя-культурным пераменам. Яго непасрэдным прадуктам лічыцца змена культурнай парадыгмы еўрапейскай цывілізацыі, што прынесла нам фемінізм, сэксуальную рэвалюцыю, экалагічны светапогляд.

Цяпер, калі верыць некаторым правым СМІ, мы зноў перажываем 1968 год, але толькі люстэркава. Прыклады? Калі ласка. Хіба паўмільённыя маніфестацыі ў Парыжы руху «La Manif pour tous» (Дэманстрацыя для ўсіх) супраць аднаполых шлюбаў не нагадваюць мільённыя дэманстрацыі рабочых і студэнтаў 45-гадовай даўніны? Жорсткія сутычкі гамафобаў з паліцыяй (падчас апошняй бойкі было паранена 34 паліцэйскіх) можна параўнаць з тагачаснымі барыкаднымі баямі ў Лацінскім квартале. Таксама звяртаецца ўвага на прысутнасць на вылазках гамафобаў вялікай колькасці моладзі, на спантанны характар акцый, наяўнасць творчай эстэтыкі — атрыбуты Парыжскага маю.

І самае галоўнае — гамафобамі, на думку правых палітолагаў, рухае не хуткаплынная палітычная кан'юктура, а сапраўды рэвалюцыйная мараль. «Ёсць рухі, якія адрозніваюцца ад іншых. «La Manif pour tous» належыць да тых, якія не звязаныя з матэрыяльнымі патрабаваннямі. Гэта філасофская, этычная, духоўная барацьба. Дэбаты (наконт аднаполых шлюбаў) падзялілі грамадскую думку па пытанні: ці можа палітычная рэформа рэалізавацца па-за этычнай перспектывай. Іншымі словамі: ці не супярэчыць прыняты на аснове рэспубліканскіх каштоўнасцяў закон калектыўнаму паняццю «дабро»?», — піша правае інтэрнэт-выданне «Nouvelles de France».

Парадаксальным чынам гэтаму спрыяла фармальнае фіяска «La Manif pour tous». Нагадаем, што 17 мая Канстытуцыйны суд Францыі — вышэйшая судовая інстанцыя — прызнаў, што закон аб аднаполых шлюбах адпавядае прынцыпам Канстытуцыі. Пасля рашэння канстытуцыйных суддзяў актыў «La Manif pour tous» ахапіў крызіс жанру, і нават нейкая фрустрацыя. Так, адзін з яго актывістаў пісьменнік Дамінік Венэр (Dominique Venner) пусціў сабе кулю ў галаву ў саборы Парыжскай Божай Маці.

Паколькі ідэя адмены закона праз ціск на дзяржаўныя інстытуты страціла сэнс, ініцыятыву ў правых партый перахапілі вулічныя гамафобы. Цяпер у Францыі можна сустрэць шмат незвычайных ініцыятыў у гэтай галіне. Як, напрыклад, рух «Hommen» (антыпод вядомай феміністкай ініцыятывы «Femen») — мужыкі з голымі торсамі, якія блакуюць грамадскія аб'екты на знак пратэсту супраць гомашлюбаў. Або рух чыноўнікаў муніцыпалітэтаў, якія вырашалі не рэгістраваць аднаполыя шлюбы нават пад пагрозай штрафу. Заклік радыкальных каталіцкіх студэнцкіх арганізацый да правядзення дэманстрацый каля будынкаў мэрый у той час, калі там рэгіструюцца аднаполыя шлюбы.




Антаганісты з левых СМІ не жадаюць прызнаваць тэзіс пра прыход новага 1968-га. Будучы адэптамі марксізму, яны нагадваюць, што рэвалюцыя 1968-га была выклікана супярэчнасцямі ў грамадскай структуры тагачаснай Францыі

Ёсць нават адкрыта экстрэмісцкія праекты. Напрыклад, група «Платформа Французская вясна» (Plattform Printemps francais), якая ўзнікла ў сакавіку гэтага года ў выніку расколу «La Manif pour tous». Платформа заклікала да арганізацыі ў Парыжы французскага Майдана — сталага шматтысячнага мітынгу, пад ціскам якога парламент мог бы адмяніць ненавісны закон. Спроба арганізаваць парыжскі Майдан ці пляц Тахрыр не знайшла шырокай падтрымкі ў грамадстве, аднак Платформа і яе лідар Беатрыс Буржэ працягваюць змагацца. Так, Беатрыс назвала цяперашні рэжым «урадам калабарантаў», што па сутнасці значыць заклік да партызанкі.

Фраза пра калабарацыяністаў зацікавіла дырэктара МУС, які забараніў групоўку. Аднак забарона «Платформы» не значыць, што грамадства застрахаванае ад з'яўлення феномену антыгейскага экстрэмізму і тэрарызму, які, напрыклад, даўно стаў часткай палітычнага жыцця ў Злучаных Штатах. У сваю чаргу, у субкультуры геяў, здаецца, таксама хапае сваіх адмарозкаў.

Наколькі такая вялікая колькасць грамадзянскіх ініцыятыў гамафобскага накірунку здольная стварыць новае культурнае поле, як было ў 1968 годзе? Пытанне дасюль адкрытае.

Антаганісты з левых СМІ не жадаюць прызнаваць тэзіс пра прыход новага 1968-га. Будучы адэптамі марксізму, яны нагадваюць, што рэвалюцыя 1968-га была выклікана супярэчнасцямі ў грамадскай структуры тагачаснай Францыі. Дзяржаўны патэрналізм генерала дэ Голя не ўпісваўся ў новую мадэль эканомікі, якой былі патрэбныя творчыя кадры. На думку левых палітолагаў, мы проста сталі сведкамі часовай радыкалізацыі гамафобскага руху — наступства таго, што прапагандысты гетэрасэксуальных шлюбаў вычарпалі легальныя сродкі барацьбы, і ініцыятыву перахапілі радыкалы. Апошнія навязваюць руху больш радыкальныя і рэакцыйныя лозунгі, што і стварае ўражанне рэвалюцыйнага характару працэсу.

Аднак, на думку левых, доўга гэты блок не праіснуе. Супярэчнасць паміж забабоннамі французскага буржуа і канцэптамі правых радыкалаў відавочная. Напрыклад, адна з груповак гамафобаў занялася пікетамі парыжскага офісу масонскай ложы Вялікі Усход, якую вінавацяць у падрыхтоўцы Вялікай французскай Рэвалюцыі, якая, у сваю чаргу, быццам, знішчыць традыцыйную сёння мараль. Часта ў гамафобскіх СМІ можна пачуць арыгінальны тэзіс пра тое, што ўдзел у акцыях пратэсту супраць аднаполых шлюбаў — лепшы сродак утрымацца ад спакусаў Сатаны.

Таму пра рымейк траўня 1968-га пакуль казаць рана. Лепш казаць пра рэцыдыў успрымання рэвалюцыі 1789 года і яе наступстваў сярод той часткі французаў, якая звязаная з царквой або вядзе кансерватыўны лад жыцця. Мадэрнізацыя і адмова ад старых шаблонаў трактуецца імі праз прызму траўматычнага вопыту перажывання рэвалюцыйнага замаху на натуральны парадак рэчаў. Аднак можна спрачацца, наколькі тут сапраўды шмат жадання да рэвалюцыйных переменаў.

Акрамя таго, парыжскі май 1968-га быў кульмінацыяй сусветнага студэнцкага пратэсту. У нашым выпадку масавыя гамафобскія пратэсты ў Францыі выглядаюць выключэннем нават на фоне суседніх краін, дзе падобныя законы прайшлі амаль незаўважна. Так, правае нямецкае выданне «Junge Freiheit», вітаючы гамафобскі імпэт французаў, прызнае, што мы маем справу з нацыянальным французскім тэмпераментам.

Праўда, год таму, калі Франсуа Аланд даў старт скандальнаму закону, левыя самі не чакалі такога маштабу гамафобскіх пратэстаў. Таму лепш пачакаць да выбараў у наступным годзе ў той жа Еўрапарламент і мясцовыя органы ўлады. Калі тэма гамафобіі і кансерватыўная фішкі сапраўды пайшлі ў масы французаў, гэта неяк адлюструецца на палітычных дэбатах і праграмах кандыдатаў.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Прабеларускае лобі ў Еўрапейскім саюзе прысутнічала заўсёды, аднак у апошні час, пасля ўзмацнення жорсткасці санкцый, яно, здавалася б, паступова прыйшло ў заняпад. Тым не менш, сімпатызанты ў Беларусі ўсё яшчэ застаюцца. Гэта прыбалтыйскія дзяржавы, цесна звязаныя з Мінскам, перш за ўсё, на ўзроўні эканомікі. Палецкіса, умоўна, можна назваць адным з такіх прадстаўнікоў.

**«Политком.ру» (Расія)**

Сярод еўрапейскіх краін, гатовых задаволіць імкненне беларусаў ездзіць у Еўропу, лідзіруе Польшча. На яе долю прыпадае каля 40% выдадзеных віз. Далей ідуць Літва (27%) і Германія (9%). Чэргі ў польскія консульствы выкліканыя тым, што толькі гэтая краіна гатовая выдаваць беларусам візы проста з мэтай шопінгу. Яны так і называюцца — «за пакупкамі». Гэта эканамічна выгадна самой Польшчы, дзе беларусы пакідаюць мільёны долараў. Па дадзеных польскага боку, толькі за дзевяць месяцаў мінулага года беларусы вярнулі па сістэме TaxFree каля 22,5 мільёна долараў. Гэта прыкладна дзясятая частка ад той сумы, якую яны пакінулі там. Цалкам верагодна, што ў краіне з адмоўным плацежным балансам, дзе барацьба з імпартам — частка дзяржаўнай палітыкі, спецслужбы маглі б прыкладаць намаганні да таго, каб абмежаваць вываз валюты. Акрамя таго, Польшча ў вачах афіцыйнага Мінска і асабіста прэзідэнта Лукашэнкі — краіна, якая хоча заразіць беларусаў «чужымі» ім ідэаламі.

**«Независимая газета» (Расія)**

Казахстан і Беларусь на самай справе зацікаўленыя ў тым, каб у адносінах да Украіны праводзілася больш гнуткая палітыка. Яна і эканамічна мэтазгодная, і палітычна. Тым больш, калі ў прэзідэнтаў Беларусі і Казахстана з'явіцца яшчэ трэці сябар і саюзнік, з якім у іх нядрэнныя асабістыя адносіны. Такое трыа зможа супрацьстаяць манапольнаму ўплыву Расіі ў Мытным саюзе. Сёння прынцып размеркавання галасоў МС будуецца на адноснай велічыні ВУП трох краін: у выніку «буйная» Расія мае 57%, а «маленькія» Беларусь і Казахстан — па 21,5%. Удзел Украіны забярэ ў Расіі кантрольны пакет — ён стане меншым за 50%.

**«News 24» (Украіна)**

Для Беларусі следствам адмовы ад перамоваў з ЕС стане зацягванне ўсіх этапаў і без таго доўгага працэсу паслаблення візавай палітыкі: ад падпісання асноўных дамоўленасцей — да ўвядзення біяметрычных пашпартоў і стварэння базы дадзеных аб асобах, якія перасякаюць мяжу з Еўрасаюзам. Гэта значыць, што краіна па волі беларускага кіраўніцтва можа надоўга затрымацца на задворках еўрапейскай стратэгіі спрашчэння і наступнай адмены візавага рэжыму. Але візавая лібералізацыя з Еўропай больш патрэбна беларусам, а не рэжыму. Магчыма, таму Брусэлю не варта ўвязваць зніжэнне кошту шэнгенскіх віз з чаканнем пераменаў з боку афіцыйнага Мінска і самому зрабіць першы крок насустрач жыхарам Беларусі.

**Deutsche Welle (Германія)**

На беларускім тэлебачанні пачалі трансляваць ролік, які інфармуе пра небяспекі працоўнай міграцыі. Характэрна, што героямі гэтага агітацыйнага матэрыялу сталі мужчыны інтэлігентнай знешнасці ва ўзросце за 40 гадоў. Усе яны апынуліся перад выбарам: паехаць на замежную будоўлю або застацца ў сябе ў краіне. Асабісты пафас гэтаму ролiку надае тая чыстая беларуская гаворка, на якой размаўляюць паміж сабой патэнцыйныя працоўныя мігранты. Нягледзячы на ўсе перагібы такой агітацыі, заўважым, што яна з'явілася вельмі своечасова. Так ужо склалася, што афіцыйны Мінск ужо зараз усведамляе, што ў Беларусі пачынаецца глабальны дэфіцыт кваліфікаванай рабочай сілы на так званым «ўнутраным рынку працы».

**«Концептуал» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІТАЛІЯ. НА САРДЗІНІІ СВАЯ ВАЛЮТА

Італьянскі востраў Сардзінія зрабіў сур'ёзны крок у напрамку стварэння сваёй мясцовай грашовай сістэмы. Упершыню мясцовымі альтэрнатыўнымі еўра грашыма, якія называюцца «сардэкс», пачалі выдаваць заробкі. Праўда, пабачыць купюры нельга. Гэта віртуальныя грошы, ідэю якіх прыдумалі некалькі беспрацоўных эканамістаў у 2009 годзе. Формула сардзінскай фінансавай сістэмы вельмі простая. Разлікі ў «сардэксах» пабудаваныя на кампенсацыйнай, клірынгавай сістэме, калі фірмы прадаюць тавары і паслугі іншым спажыўцам па безнаяўным разліку, зарабляючы крэдыты, якія трацяць на набыццё іншых, неабходных ім тавараў і паслуг у фірмаў, якія таксама з'яўляюцца ўдзельнікамі «сардэкс». Зараз гэта каля тысячы прадпрыемстваў. У «сардэкс» можна аплачваць практычна ўсё: ад аптовага і рознічнага гандлю да рэстаранаў, транспарту і сувязі. Толькі за першыя чатыры месяцы гэтага года плацяжы ў «сардэкс» перавысілі эквівалент у 4 мільёны еўра. І вось новы этап — кампаніі пачалі выплачваць зарплату сваім супрацоўнікам у «сардэкс». На цяперашні дзень заробак у «сардэксах» па ўсёй Сардзініі атрымліваюць каля 200 чалавек.

**Паводле італьянскай прэсы**

### РАСІЯ. ШТЫРЛІЦ БЕЗ МЮЛЕРА — ГЭТА НЕСУР'ЁЗНА

Цікавай аказалася рэакцыя расійскага грамадства на незвычайную ініцыятыву міністра культуры РФ Уладзіміра Мядзінскага. Апошні ўзгадніў з сям'ёй народнага артыста СССР Вячаслава Ціханава ідэю паставіць яму помнік у цэнтры Масквы. Па задумцы Мядзінскага, Ціханаў павінен быць прадстаўлены ў яго самым вядомым кінавобразе: у ролі шпіёна Ісаева, ён жа Штырліц. Міністр заўважыў, што гэта магло б не толькі ўвекавечыць памяць Ціханава, але і стаць сімвалам айчыннай акцёрскай школы. Інфармацыя пра ініцыятыву Мінкультуры выклікала супярэчлівыя рэакцыі. Самая папулярная — чаму Ціханаў заслужыў помнік, а не менш вядомы акцёр Леанід Бранявы, які выканаў ролю Мюлера, пазбаўлены такога права? Між тым, роля Штырліца бліскуча атрымалася ў Ціханава шмат у чым дзякуючы тандэму з Бранявым-Мюлерам. У сеціве ўзнік цэлы рух за тое, каб побач з выявай Ціханава на пастаменце прысутнічаў Бранявы. Між тым, шмат хто баіцца, што манумент чалавеку ў форме афіцэра СС стане культавым месцам для зборау не толькі мясцовых неанацыстаў, аднак і ўвогуле Меккай усіх еўрапейскіх карычневых.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. ІСУС ХРЫСТОС БЫЎ ПРАШЧУРАМ БАНДЭРЫ?

Украінскія грэка-каталікі пачалі вайну з незвычайнай сектай, якая з'явілася ў Івана-Франкоўскай вобласці. Барыс Галадзюк абвясціў сябе прарокам царквы Светлая вера Украінскай Паўстанцкай Арміі (УПА). Асноўная ідэя Барыса — у тым што Царства божае на зямлі пачнецца толькі пасля новага паўстання УПА. Падчас паўстання з неба на зямлю прыйдзе новы кароль — вядомы паэт Тарас Шаўчэнка. Адначасова ў Кіеве з'явіцца антыхрыст, у якога замест левай рукі будзе Пуцін, а замест правай — Гарбачоў. Кароль Тарас пераможа і створыць сваё царства. Дарэчы, царства божае будзе існаваць у межах ачагу партызанскага руху, а дакладней, Прыкарпацця. Тут, а не ў Віфлееме, па словах Барыса Галадзюка, таксама нарадзіўся Ісус Хрыстос, далёкі сваяк Сцяпана Бандэры. На першы погляд, усё гэта выглядае як поўнае трызненне, у якое паверыць толькі апошні вар'ят. Аднак царкоўныя структуры і грамадскасць Заходняй Украіны б'юць у набат. Інфармацыя пра арыгінальную секту ўжо пайшла па інтэрнэту, кампраметуючы спадчыну УПА і цяперашнія ўкраінскія нацыяналістычныя партыі. Таму патрыёты актыўна адмяжоўваюцца ад ідэй Галадзюка, што стварае яму рэкламу.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПОЛЬШЧЫ. НОВЫЯ АСОБЫ Ў ПАЛІТЫЦЫ



Вынікі апошняга апытання электаральных сімпатый палякаў сведчаць пра з'яўленне ў палітыцы новага актора. Гэта партыя «Кангрэс» новай правай пад кіраўніцтвам Януша Корвін-Міке. Партыя дэкларуе сябе як кансерватыўна-ліберальная і была заснаваная ў 2011 годзе. Раней яна не карысталася асаблівай падтрымкай выбаршчыкаў, у сярэднім набірала на выбарах каля 2–2,5 працэнтаў. Аднак у гэтым годзе рэйтынг новых правых пайшоў угару. Паводле апытанняў, яе гатовы абраць 5 працэнтаў палякаў, што ў выпадку выбараў гарантуе «Кангрэсу» фракцыю ў Сейме. Рост папулярнасці «Кангрэсу», на першы погляд, цяжка зразумець, паколькі на двары крызіс, а партыя выступае за татальны пераход эканомікі да свабоднага рынку. Януш Корвін-Міке нават не супраць увогуле ліквідаваць падаткі з прыбытку. З улікам радыкальнага ліберальнага характару праграмы, можна меркаваць, што, хутчэй за ўсё, цікавасць да «Кангрэсу» звязаная з нерашучымі крокамі кіраўніцтва ўрадавай партыі «Грамадзянская платформа» (PO). Акрамя таго, шматлікімі выбаршчыкам «Грамадзянскай платформы», якая таксама называе сябе ліберальнай партыяй, надакучыў яе лідар Дональд Туск. Ну а агульным пераможцам на выбарах можа стаць партыя «Права і справядлівасць» (PiS), якая з 30-працэнтнай падтрымкай абыходзіць на пяць пунктаў PO.

**Паводле польскай прэсы**

▸ ПАДЗЕЯ

# ТУРЭЦКІЯ ПАРАЛЕЛІ ДЛЯ СНД

*Алег НОВІКАЎ*

**Якія ўрокі можа мець турэцкае паўстанне для СНД? Прапануем агляд СМІ і блогасферы кран СНД.**



«Што Стамбул, што Масква — толькі барацьба дае правы!» — такім лозунгам адрэагавала на падзеі на Басфоры расійская апазіцыя. Як адзначаюць у сеціве, афіцыйныя расійскія СМІ доўга ігнаравалі тэму пачатку рэвалюцыі ў Турцыі і толькі ў нядзелю сталі даваць нейкую сухую інфармацыю. Сайт «Новы рэгіён» падсумоўвае: «Можна і трэба сказаць, што працэсы ў Турцыі і працэсы ў Расіі практычна ідэнтычныя — і там, і там мы бачым супрацьстаянне адукаванага вестэрнізаванага грамадства хамству, рэлігіі і дыктатуры, якая пакрывае карупцыю і ціха праядае краіну. І там, і там «рэлігійнае адраджэнне» ў спалучэнні з раздачай будаўнічых кантрактаў сябрам кіруючай вярхушкі. І там, і там рыторыка пра тое, што «стабільнасць падрываюць замежныя агенты» (Эрдаган ужо выступіў з заявай, што турэцкі спецслужбы шукаюць замежных шпіёнаў, якія арганізавалі беспарадкі)».

Турэцка-расійскія паралелі шмат каму відавочныя хаця б таму, што адна з самых буйных акцый пуцінскай і турэцкай апазіцыі звязаная з высечкай паркаў. У Расіі гэта быў Хімкінскі лес, а ў Турцыі — парк Гезі. Песімісты, дарэчы, прагназуюць чорныя дні для экалагічнага руху ў Расіі. Улада яўна перапужаецца таго, да чаго могуць давесці быццам бяскрыўдныя выступы ў абарону прыродных аб'ектаў.

Асобна звяртаюць увагу на тое, што Эрдаган давёў краіну да пратэстаў з-за сваёй палітыкі ісламізацыі. Так, роля парку таксама значная, але гэта толькі яшчэ адзін элемент палітычнай фрэскі, а не цэнтральная кампазіцыя. Якраз нападкі Эрдагана на прадметы культу Атацюрка і свецкага жыцця, быццам, далі старт шматтысячным выступам. Клерыкальная палітыка шмат каму нагадвае пашырэнне ўплыву на расійскае грамадства праваслаўнай царквы. Як адзначае блогер sch_1970: «У РФ закручваюць гайкі, а «праваславізацыя» — такая, што «туркам і ў кашмарным сне не сасніцца». У гэтым плане, на думку шмат каго, падзеі ў Турцыі мабілізуюць тую частку расійскага грамадства, якая выступае за захаванне свецкага характару дзяржавы.

Аднак не факт, што турэцкая фронда можа даць як мінімум новы штуршок дэмакратычнаму руху ў расійскіх шыротах. Як ні парадаксальна, салідарнасць і рашучасць туркаў выклікалі комплекс у рускіх, які перайшоў у пачуццё татальнага адчаю. «Малайцы. Нашы на такое не здольныя, адназначна». У якасці прыкладу яны прапануюць «параўнаць узровень абурэння з высечкай парку ў Турцыі і сітуацыю з Хімкінскім лесам у Расіі ў плане ўзроўню сацыяльнай актыўнасці грамадзян».

Зацікавіліся навінамі з Турцыі і ва Украіне. Аднак тут турэцкая тэматыка больш цікавая журналістам СМІ, які блізкія да адміністрацыі Віктара Януковіча. Па-першае, турэцкая ксенафобія — частка ідэалогіі нацыяналістаў, якія бачаць у кожным турку як мінімум спакусніка ўкраінскай дзяўчыны. Пару гадоў таму на стадыёне ў Львове падчас матчу з турэцкім клубам нацыяналісты ўзнялі транспарант «Турэцкія св..ні прэч з Еўропы». З улікам таго, што нацыяналісты з аб'яднання «Свабода» ўваходзяць у склад дэмакратычнай апазіцыі, казаць пра салідарнасць з туркамі апазіцыйным палітыкам было б, мякка кажучы, не этычна.

У дадатак з пачатку вясны па Украіне крочыць разрэкламаваная апазіцыйная кампанія «Паўстань, Украіна!», якая выглядае проста пшыкам на фоне кадраў з Турцыі. Газета «Версии» адзначае: «Тры месяцы па ўсёй краіне бурна крочыла акцыя «Паўстань, Украіна!», а паўстала чамусьці Турцыя. Я проста дзіўлюся гэтаму невытлумачальнаму факту. Быццам бы ў туркаў нават аднаго народнага трыбуна не было, аднак працэс пайшоў. Ды яшчэ як: тысячы арыштаваных, на вуліцах сотні тысяч. Як сказала б Юлія Уладзіміраўна, нацыя прачнулася! Быццам бы пачалося ўсё з-за дрэў у цэнтральным гарадскім парку. Звычайная гісторыя. Вырашылі зрабіць супермаркет. Ніхто не хадзіў, сітуацыю не нагнятаў. Баксёры колы не намотвалі, нацысты з паходнямі не блукалі, іудзеі з секты «вялікай прамаці апазіцыі» не адсвечвалі. Але панеслася. Прычым у адзіным парыве».

Масавыя пратэсты ў Стамбуле пачаліся з-за забудовы парку. Здавалася б, Кіеў, з яго варварскай практыкай камерцыйнай забудовы грамадскай прасторы, мае ўсе шанцы мабілізаваць народны пратэст. Але напярэдадні таксама з Львова прыйшла абсалютна скандальная навіна. За кошт галасоў дэпутатаў фракцыі аб'яднання «Свабода» мясцовы гарсавет дазволіў будаўніцтва каля Сабору святога Юра (помнік ЮНЕСКА) элітнага камерцыйнага дому.

Праўда, дыскрэдытацыя апазіцыі не значыць лаяльнасць простых грамадзян да Януковіча. На ўкраінскіх інтэрнэт-форумах гучыць: «А мы ўсё са сцягамі ходзім, як дурні. Трэба рабіць так, як туркі».

Затое турэцкі працэс — вялікі стымул для апазіцыі Азербайджана, гістарычна блізкага да Турцыі. «Турцыя і Азербайджан на самай справе з'яўляюцца вельмі падобнымі дзяржавамі, усё з'явы ў гэтых краінах адбываюцца паралельна ці ў Азербайджане — крыху пазней. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 4 чэрвеня заявіў цюрколаг Рубен Мелканян. «Цалкам верагодна, што падзеі ў Турцыі натхняць пратэсты ў Азербайджане», — адзначыў Мелканян. Нагадаем, што ўвосень у Азербайджане адбудуцца прэзідэнцкія выбары.

Вельмі аптымістычна ўспрыняла навіны з Турцыі і казахская апазіцыя. Адна з антыназарбаеўскіх арганізацый «Сацыялістычны рух Казахстана» выдала спецыяльную заяву, у якой гаворыцца: «Цалкам падтрымліваем барацьбу нашых братоў, працоўных супраць ненавіснага рэжыму Эрдагана. Рэвалюцыйныя падзеі ў Турцыі вельмі важныя і для нас, бо яны таксама з'яўляюцца ўдарам па дыктатуры Назарбаева. Падзенне Эрдагана і пераможнае паўстанне мас у Турцыі абавязкова стануць прыкладам, яркім узорам і для працоўных Казахстана, Кіргізіі, Узбекістана, Азербайджана, Таджыкістана і Туркменіі».

Такім чынам, пакуль урокі турэцкага бунту ўспрымаюцца ў кожнай краіне СНД па-рознаму. Аднак ёсць адзіная агульная тэма. Вялікая колькасць людзей, гледзячы рэпартажы з Турцыі, чытаючы артыкулы пра тое, што там адбываецца, адчула сілу салідарнасці простых грамадзян. На дзясятках сайтаў і блогаў ва ўсіх краінах СНД можна прачытаць адзін і той жа тэкст. Гэта пасланне аднаго з турэцкіх блогераў на адрас прэм'ера Эрдагана: «Прэм'ер-міністр, вы не ўяўляеце, як я вам сёння ўдзячны. Вы нават не ведаеце, якую добрую справу зрабілі для краіны сёння. Сёння я ўпершыню бачыў, як фанат «Фенербахчэ» дапамог падняцца з зямлі галатасарайцу (фанату варожага клуба) пасля загаду паліцыі «забіваць». Сёння туркі і курды дзяліліся вадой і хлебам. Сёння жанчыны, якіх вы называеце прастытуткамі, выйшлі з публічных дамоў, каб прамыць раны пацярпелых і напаіць іх лімонный вадой. Сёння нялюбыя вамі трансвесты ратавалі людзей у сваіх пакоях танных гатэляў. Адвакаты і лекары раздавалі свае тэлефоны для аказання дапамогі. Сёння эснафы (крамы, кавярні — усё, што месціцца на першых паверхах) адключылі паролі на вайфай, а атэльеры пускалі стомленых або збітых. Сёння нашы вочы поўныя слёз не ад вашага газу, а ад гонару за нашу Турцыю».

ГІСТОРЫЯ І ПАЛІТЫКА

# КАЛІ ПЕРАМОГУ ЛЕПШ НЕ АДЗНАЧАЦЬ

Алег НОВІКАЎ

**Брытанцы перасварыліся з-за таго, як святкаваць 100 гадоў Першай сусветнай вайны.**




28 чэрвеня 2014 года ў шматлікіх краінах стане сімвалічным сігналам для пачатку падрыхтоўкі да адной з галоўных падзей наступнага года. Менавіта ў гэты дзень споўніцца сто гадоў замаху сербскага нацыяналіста Гаўрылы Прынцыпа на аўстра-венгерскага эрцгерцага Фердынанда. Стрэл у Сараеве, як вядома, запусціў працэс, развязкай якога ў пачатку жніўня 1914 года стала Першая сусветная вайна. Прайсці міма даты, якая змяніла лёсы чалавецтва, наўрад ці магчыма. Асабліва ў тых краінах, якія выйшлі з той вайны пераможцамі.

Збіраюцца святкаваць гадавіну і ў Вялікабрытаніі. Яшчэ ў кастрычніку 2012-га прэм'ер Дэвід Кэмеран падчас візіту ў Музей імперыялістычнай вайны ў Лондане пазнаёміў аўдыторыю з галоўнымі контурамі будучага юбілею. Праграма святкавання вельмі маштабная. Яна ўключае рознага кшталту выставы, рэканструкцыі старых помнікаў, выдачу грантаў гісторыкам для вывучэння ўплыву вайны на лакальным узроўні і г.д.

4 жніўня 2014-га, у сотую гадавіну рашэння ўраду Яго Вялікасці падтрымаць Расію і Францыю ў вайне супраць Германіі, над Лонданам уздымуць вайсковыя дырыжаблі, у Тэмзу ўвядуць караблі, і нават падводныя лодкі пачатку мінулага стагоддзя. Увогуле, адным днём свята не абмяжуецца. Ёсць ідэя арганізаваць рэканструкцыю славутых футбольных матчаў паміж брытанскімі і нямецкімі салдатамі, якія мелі месца падчас Калядаў у 1914 годзе. У 2016-м асобна ўзгадаюць бітву на Соме.

Зразумела, што перш за ўсё святкаванні — знак павагі да брытанцаў, якія пайшлі на фронт у 1914 годзе. Прэзентуючы праграму святкаванняў, Кэмеран адзначыў: «У агульнай колькасці больш за 50 мільёнаў фунтаў будуць выдзеленыя на святкаванне стагоддзя Вялікай вайны (так у Еўропе часта называюць Першую сусветную), і гэта абсалютна правільна. Такое мерапрыемства павінна быць для нас прыярытэтным. Для гэтага дастаткова ўзгадаць запіс аднаго з салдатаў, які за тыдзень да сваёй смерці напісаў ліст дамоў. У ім ёсць такія словы: «У выніку гэтай вайны я і шмат хто яшчэ адыдуць у нябыт, аднак вынікі нашых намаганняў будуць жыць вечна».

Аднак памяць пра тую вайну адыгрывае важную функцыю і цяпер. Падчас усё таго ж выступу ў Імперскім музеі прэм'ер дадаў: «Святкаванне павінна ўзняць нацыянальны дух у кожным кутку краіны, дапамагчы зразумець нам самім — якая нацыя мы ёсць».

З самага пачатку ідэя маштабна адзначыць 4 жніўня не спадабалася левай апазіцыі, якая пабачыла тут намер паўтарыць Алімпіяду 2012 года. Справа не толькі ў тым, што на святкаванне юбілею плануюць выдзеліць з бюджэту салідную суму, якую ў часы крызісу можна было б накіраваць у сферы, што неадкладна патрабуюць фінансавай падтрымкі. Крытыкі ўраду звязваюць захапленне гісторыяй з прызначаным на наступны год рэферэндумам наконт незалежнасці Шатландыі. Патрыятычны ўгар, які, безумоўна, ахопіць усю краіну, павінен дапамагчы кансерватарам пераканаць шатландцаў прагаласаваць супраць суверэнітэту.

Шмат хто лічыць, што Кэмеран за кошт Першай сусветнай вайны хоча ўзняць свой рэйтынг сярод часткі брытанцаў-еўраскептыкаў, якія, як правіла, перакладаюць усю адказнасць на цяперашнія эканамічныя праблемы на Германію. Ім яўна спадабаецца тэма ўшанавання гадавіны вайны з ненавіснымі тэўтонамі. Мімікрыя пад еўраскептыка вельмі актуальная для Кэмерана з улікам таго, якімі хуткімі тэмпамі набірае за кошт электарату торы пункты «Партыя незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства».

Аднак значна больш хвалюе частку брытанскага грамадства пытанне: ці ёсць увогуле сэнс нешта святкаваць у жніўні 2014 года?

**Кэмеран за кошт Першай сусветнай вайны хоча ўзняць свой рэйтынг сярод еўраскептыкаў, якія, як правіла, перакладаюць усю адказнасць на цяперашнія эканамічныя праблемы на Германію**

Левыя выданні ахвотна нагадваюць, які вялізарны кошт заплаціла Вялікабрытанія за тое, што палезла на Балканы дапамагаць Расійскай імперыі ратаваць сербаў: 743 тысячы забітымі (толькі ў першы дзень бітвы на Соме ў 1916 годзе загінула 20 тысяч англічан).

«Guardian» адзначае: «Дэвід Кэмеран намагаецца не дыскутаваць пра маральны бок Вялікай вайны, якая выявіла поўны правал нашай палітычнай і вайсковай эліты. Нават прэм'ер Ллойд Джордж, які кіраваў падчас той вайны, у сваіх мемуарах прызнаваў, што вайна была для яго падобнай да геаграфічнай экспедыцыі ў невядомую зямлю без компаса і без мапы».

Апазіцыя ахвотна разглядае іракскую і афганскія кампаніі ў кантэксце працягу логікі Першай сусветнай вайны, калі палітыкі кідалі людзей на смерць, абсалютна не думаючы пра іх лёсы і пра тое, што будзе заўтра. Не дарма сярод незадаволеных святкаваннем Першай сусветнай вайны шмат ветэранаў іракскай і афганскай кампаній. Адзін з іх піша: «Рэальны ўрок вайны — у тым, што імперыя, ва ўсіх яе формах, заўсёды вядзе да кровапраліцця, што мілітарызм і нацыянал-шавінізм — гэта шлях да катастрофы».

Найбольш радыкальная фракцыі апазіцыі ўвогуле выступіла з ідэяй адмовіцца ад святкавання: «Ёсць перамогі, якія лепш не святкаваць, і да такіх належыць перамога Англіі ў Першай сусветнай вайне». «Брытанскі і французскі кабінеты ўмудрыліся ўцягнуць увесь свет у вайну, наступствы якой мы перажываем дасюль. Дастаткова ўзгадаць Палесціну. Ніякага святкавання быць не павінна!». Апазіцыя прапануе ператварыць 4 жніўня 2014 года ў дзень жалобы або ганьбы тых, хто ўцягнуў краіну ў крывавую мясарубку.

Больш памяркоўны падыход — узгадваць вайну, а не святкаваць перамогу — прапануюць некаторыя сябры аргкамітэта святкавання юбілею, куды ўвайшлі вядомыя гісторыкі. Аднак Дэвід Кэмеран працягвае гнуць сваю лінію. Не так даўно ён адзначыў: «Мы глядзім на старых фотаздымках на твары простых людзей ва ўніформе. Вялікая вайна вельмі глыбока закранула ўсіх нас — сумесь жаху і гонару, а таксама пачуццё надзеі пасля гэтай вайны назаўсёды стала часткай нашай культуры».

Кансерватыўная прэса падкрэслівае, што выйсце з цяперашняга эканамічнага крызісу наўрад ці магчыма без пачуцця нацыянальнага адзінства. Менавіта так было ў 1914-м і 1939-м, калі правы ўрад падтрымалі левыя. Тыя левыя, хто выступае з антыпатрыятычных пазіцый, па-сутнасці правакуюць яшчэ большае адчужэнне брытанцаў ад улады, ад любога ўраду — левага або правага.

Чым закончыцца дуэль двух гістарычных накірункаў, пакуль сказаць цяжка. Што мы пабачым у жніўні наступнага года ў Лондане: дырыжаблі і вайсковы парад або жалобную маніфестацыю памяці ахвяр Першай сусветнай вайны? Хутчэй за ўсё, і тое і другое. Праўда, магчымы і трэці варыянт. Мясцовыя гумарысты ўжо прыдумалі, як памірыць Дэвіда Кэмерана і левую апазіцыю. Яны прапануюць проста перадаць усе паўнамоцтвы на падрыхтоўку мерапрыемстваў 4 жніўня 2014 года аматарам альтэрнатыўнай гісторыі.

Увогуле, дэбаты ў Вялікабрытаніі — добрая нагода для таго, каб задумацца, як Беларусь збіраецца святкаваць юбілей вайны, якая таксама кардынальна змяніла яе лёс. Не хацелася б, каб у апошні момант наша ўлада папросту агучыла тэзісы сучасных расійскай гісторыкаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ІЛЬХАМ АЛІЕЎ



Прэзідэнт Азербайджана стаў закладнікам створанага ў краіне культу свайго бацькі Гейдара. Два гады таму афіцыйны Баку ўрачыста паведаміў пра тое, што нацыянальная пошта Бельгіі прадставіла марку, прысвечаную 90-гадоваму юбілею нацыянальнага лідара Гейдара Аліева. Але на днях прадстаўнік паштовай службы Бельгіі (bpost) паведаміў, што дадзеная марка не з'яўляецца афіцыйнай маркай bpost. На самай справе, паводле яго слоў, марка была выпушчаная кампаніяй, што прадстаўляе так званыя паслугі «Мая марка», якія дазваляюць кліентам заказваць персаніфікаваныя маркі для канкрэтнай падзеі, напрыклад, вяселля або дня нараджэння. Адным словам, нехта моцна падставіў сям'ю Аліевых і, магчыма, пры гэтым яшчэ атрымаў салідныя грошы за тое, што будзе лабіраваць друк маркі Гейдара Аліева ў такой салідная канторы, як Нацыянальная пошта Бельгіі. Ступень адказнасці злачынцы яўна будзе залежаць ад актыўнасці армянскіх медыя, якія ўжо абвінавацілі Баку ў палітычнай афёрах на марках. Раней нейкі фонд «Карабах» развёў Фонд Аліевых на друк у ЗША марак па гісторыі Карабаху. Аказалася, што, як і ў выпадку з маркамі Гейдара Аліева, маркі пра Карабах былі надрукаваныя на паперах, да якіх нацыянальная пошта ЗША не мае ніякага дачынення.

### ЮРЫЕ ЛЯНКЭ



Лянкэ стаў новым кіраўніком ураду Малдовы, які абапіраецца на партыю ліберал-дэмакратаў, дэмакратаў і адкольшчыкаў ад Партыі лібералаў. Абранне Лянкэ было падобна да чароўнай казкі. Некалькі месяцаў прадстаўленыя ў малдоўскім парламенце партыі не маглі дамовіцца наконт фармату новага кабінету, аднак 28 мая адбыўся цуд. Падчас аднаго пасяджэння дэпутаты абралі спікера, а пасля ў дадатак і прэм'ера. Прычым усё падзеі мелі месца за гадзіну да паўночы. На думку экспертаў, такая аператыўнасць тлумачыцца вельмі проста. Еўропа патрабавала назваць прозвішча палітыка, які павядзе Малдову да алтара Еўрасаюза на лістападаўскім саміце «Усходняга партнёрства» ў Вільні. Ад саміта чакаюць вельмі шмат. Па словах Лянкэ, калі ў Літве ўсё будзе нармальна, Малдова падпіша дамову пра Асацыяцыю з ЕС, і ўжо з наступнай восені малдаване змогуць ездзіць у Еўропу без візы. Але паколькі новая кааліцыя ствралася выключна «пад Вільнюс», адразу пасля гэтага саміта Малдова яўна перастане ўяўляць цікавасць для Еўропы, і палітычны крызіс можа ўзнавіцца. Хаця не ўсё так проста. Ходзяць чуткі, што кааліцыя пратрымаецца да новых выбараў у 2015 годзе, каб лідар вядучай апазіцыйнай партыі камуністаў Уладзімір Варонін яшчэ трошкі састарэў. Яму ўжо зараз 72 гады, і ў партыі чуюцца галасы за яго адстаўку. Быццам, калі Вароніну будзе 74, то кампартыя адназначна развваліцца з-за ўнутраных амбіцый.

### СІ ЦЗЫНЬПІН



Вядомая таварышам Сі Цзыньпінам кампартыя Кітая пачала вайну з гумавымі качкамі. Непасрэдна кітайскіх камуністаў непакоіць гіганцкая жоўтая качка, памерам прыкладна 15 метраў, якую галандскі мастак Фларэнцін Хофман усталяваў у затоцы Вікторыя (Ганконг) прыкладна месяц таму. Жоўтая качка спадабалася кітайцам, і мэрыі некаторых гарадоў КНР усталявалі ў сябе падобныя аб'екты. Аднак ідэя пакланення перад Захадам у форме захаплення гумавымі жоўтымі качкамі не вельмі спадабалася лідарам КПК. Орган ЦК Кампартыі «Жэньмінь жыбаа» («Народны штодзённік») асудзіў Хофмана і яго паслядоўнікаў. Газета прызнае, што «качка — гэта сусветны сімвал дзяцінства і антыкамерцыйнага духу». Аднак імітаваць качак Хофмана, на думку аўтараў матэрыялу, «кітч, які можа сведчыць пра адсутнасць у кітайцаў творчага рэсурсу». У фінале артыкула аўтары робяць выснову: «Гэта добра, што гумавая качка такая папулярная, аднак вельмі горка назіраць, як наша крэатыўнасць становіцца слабай». Цяпер трэба чакаць, што кітайскія камуністы зоймуцца імпартазамяшчэннем гумавай качкі.

РЭЦЭНЗІЯ

# СПЕКТАКЛЬ, ЯКІ ЧАКАЛІ ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ

Валерыя КУСТАВА

**Літоўская рэжысёрка паставіла спектакль па польскім творы беларускага паэта пра ліцьвінаў. Паводле ўзрушэння ды імпульсу актуальнай беларускасці «Дзяды» Рамунэ Кудзманайтэ можна параўнаць хіба што з «Тутэйшымі» Мікалая Пінігіна.**

У літоўскай пастановачнай групы з удзелам беларускіх актораў атрымалася стварыць існа беларускі спектакль. У якім, з аднаго боку, прасочваецца моцны бэкграўнд, пранікненне аўтара ў эпоху і матэрыял са спасылкамі да канкрэтных культурніцкіх традыцый — святкаванне «Дзядоў» і гістарычных фактаў.

А з іншага — гэта абсалютна сучасная трактоўка паэмы Міцкевіча з акцэнтаваннем на відавочных хваравітасцях беларускага грамадства: палітвязні, забарона нацыянальных сімвалаў, занядбанне традыцый і нацыянальнай памяці, змаганне за свабоду слова, душы ды самаідэнтычнасць. Узднімаецца таксама пытанне грамадзянскага і чалавечага выбару — здрады, помсты, несправядлівага пакарання, салідарнасці.

Вялікая імправізацыя «Дзядоў» — удалы эксперымент з класічным творам, зразумелы і так чаканы на беларускай сцэне. Урэшце, тэатр спрабуе не забаўляць пустымі камедыямі і не заціскаць замежнай грувасткай класікай (перадусім — расійскай). А расказваць пра сваё, пра складаныя рэчы мовай генетычна зразумелых беларускіх культурніцкіх кодаў, мовай сімвалаў, але сімвалаў чытэльных і ясных, мовай напраўду прыгожых балючых універсальных метафараў.

Выглядае на тое, што ўсё ж не ў добрым свежым беларускім рэжысёры была праблема і патрэба беларускага тэатра і не ў адсутнасці якаснай айчыннай драматургіі, а папросту ў маштабе асобы, якая б узялася за працу. Незалежна ад яе пашпартнага грамадзянства.

Паэма Адама Міцкевіча — выклік для любога рэжысёра. Яна не была завершана, і кожная з яе чатырох частак па сутнасці можа лічыцца асобным творам. Але нават гэта спадарыня Кудзманайтэ скарыстала на сваю карысць, карысць спектакля і карысць актораў: пры стварэнні і паказе характараў герояў і выяўленні іх сутнасцяў, якія таксама з'яўляюцца фрагментарнымі (хоць насычасана-запамінальнымі, дзякуючы акторскай трупе) — адпаведныя і суадносныя самой структуры паэмы.

Таксама варта адзначыць шматкротнае дзеянне на сцэне актораў групамі (а дакладней — актораў як групы, з'яднанай



Фота budzma.org

**Крыху фактаў:**

Ідэю пастаноўкі паэмы Адама Міцкевіча «Дзяды» прадзюсару «Тэатра Ч» Андрэю Чорнаму падказаў тэлевядоўца Юрый Жыгамонт. А мастацкі кіраўнік Андрэй Курэйчык прывёў у тэатр літоўскую рэжысёрку Рамунэ Кудзманайтэ з яе камандай пастаноўшчыкаў. Беларускія акторы былі абраныя на кастынгах, дзе на прагляд кожнага вылучалася не больш за 10 хвілінаў. Да слова, гэта першая работа новастворанага тэатру.

Гэта не першае ўвасабленне «Дзядоў» на беларускай сцэне за апошні час, цягам сезону ішлі і лялечныя «Дзяды».

Тры прэм'ерныя паказы адбыліся ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў. Апошні з іх — 20 траўня. Усе квіткі на спектакль былі раскупленыя загадзя.

супольнасці), што ёсць данінай традыцыі літоўскай тэатральнай школе. Гэта надае твору эмацыйнай поліфаніі і глыбокага дыхання нагбом.

## Духі і змагары

Спектакль па сутнасці складаецца з дзвюх частак — духоўнай практыкі і нацыянальнай практыкі, часткі падзеленыя паміж сабой антрактам. І з'ядналыя цэнтральным вобразам — паэта.

Калі першая — была вельмі блізкая і зразумелая з бабуліных аповедаў і святкавання дзядоў у нас у хаце, як было, бадай, у бальшыні майго пакаленне, не кажучы пра старэйшае.

З містыкай, рыпам дзвярэй, трывогай і размовамі з душамі, куццёй і свечкамі, зярнятамі… Падказкамі на людское зямное жыццё і скаргамі на жыццё незямное ад заблукалых духаў. У дадзеным кантэксце — з душамі беларускімі (з казак, з бабуліных песень): жорсткія паны, дзеткі-сіроткі, цяжарныя загінулыя маладзіцы — усе тое героі беларускіх паданняў, нашых гісторый і легендаў.

У другой жа частцы — апладысменты зрывала менавіта відавочнасць адсылак да рэчаіснасці сённяшняй. Дый самі стваральнікі нязменна акцэнтуюць у сваіх прамовах на асучасненасці сцэнічнай інтэрпрэтацыі паэмы. Так і ёсць.

Уся група папрацавала па славу. І славу гэты спектакль здабудзе, бо ўжо замацоўвае за сабой месца новай легенды беларускай сцэны.

Вершаваная паэма Міцкевіча — матэрыял не з простых, але Максім Клімковіч абраў найістотнае, ствараючы сцэнічную версію твора. Але да гэтага, каб твору з'явіцца, яму трэба было быць перакладзеным (адзначу, выдатна перакладзеным з польскай на беларускую Сержам Мінскевічам).

Нягледзячы на літоўскія пашпарты, каманда стварыла па сутнасці нацыянальны спектакль. Безумоўна, галоўная роля тут належала рэжысёру. Але ўсё спрацавала, выбухнула менавіта з таго, што ўсе працавалі адзін на аднаго, на адну ідэю. Нягледзячы на тое, што ўся работа над спектаклем заняла меней за тры месяцы.

Але, відаць, не жартуюць акторы і рэжысёр, кажучы, што іх «вялі анёлы» і блаславіў сам дух Адама Міцкевіча. Былі і містычныя здарэнні, што адбываліся з выканаўцам галоўнай ролі Раманам Падалякам і Рамунай Кудзманайтэ.

## Паўтарацца, каб быць пачутым

Скрозь увесь спектакль выкарыстоўваюцца рэфрэны. Героі часта паўтараюць знакавыя фразы, засяроджваюць на іх увагу гледача. Паўтарэнне прамоўленага адпаведнае задуме.

У першай частцы на вясковых могілках варажбіты гукаюць, прамаўляюць замовы на аблудныя душы (Пан, Сава, хлопчык Юзя, дзяўчынка Рузя), што затрымаліся паміж пеклам і раем — у Чысцы.

Тураванні гучаць і з вуснаў для заблукалых духаў. «Душачкі, выгнанцы раю, паспяшайце на Дзяды, для палёгкі, для ратунку… сюды, сюды, сюды!». Выдатная знаходка з вакном, праз шыбіны якога, як і праз іншыя люстэркавыя прынады: ваду, люстэркі, вокны, нават хатні медны посуд — можна ўбачыць душы памерлых.

Паўсюль — воск, дрэва (драўляныя лавы, ступы, горкі, труны і інш). Варожачы і заклікаючы «тых, хто не дайшоў да брамы раю», анёлы і варажэі хочуць дапамагчы душам здабыць палёгку — пачаставаць іх, паказаць, што іх памятаюць, «каб душа сышла ад цела і ў пекла паляцела», — як было з Панам-нябожчыкам, былым уладаром вёскі, які ў халадэчу зімовую выгнаў з хаты цяжарную — і яна з дзіцяткам змерзла на вуліцы.

Але дазнаемся ў тым жа тураванні, што таму, хто пры жыцці «не быў чалавекам, таму чалавек не дапаможа».

Камусьці гуканцы насыпаюць зярнятак гарчыцы, каб душачкі-птушачкі брата і сястры папросту супакоілася — і захацелі сысці з зямлі, дзе было так бесклапотна і светла гуляць у лялькі і бегаць па траве.

Над сцэнаю — выцвілыя старыя абразы як абарона. Да іх як да звышняй сілы пачарговa звяртаюцца героі: то з мальбамі, то з просьбамі, то гневаючыся…

Варажбітка (пазней — анёл: Зоя Белахвосцік, брава!) прымае за аблудную душу паэта-пустэльніка, які забыўся на сябе праз каханне. Толькі і памятае, што яго абраная мела «чужы пярсцёнак». Конрад (пазней — Густаў: Раман Падаляка, брава!) хворы на свае ўспаміны пра каханне. Яговая душа — у дрэўцы-парастку кіпарысу, у які ён перыядычна хоча самагубча ад безвыходнасці запусціць нож.

## Вязні і палітвязні

Гэтым разам у ланцугі закутыя як парастак-душа, так і маладыя студэнты Віленскага ўніверсітэту (іх ролі, апроч Рамана Падалякі, выканалі Генадзь Гараскі, Андрэй Саўчанка, Дзмітры Тумас).

Выдатная сцэнаграфічная знаходка — усе яны прыцятыя да дошкі (якая чытаецца як пярпячны ашэстак з крыжа Езуса), да якой прымацаваныя і тры жалезныя кратавыя кубкі. Кожны з іх мае сваё слова — слова пра цяперашняе і былое, слова, што ржа і кранае.

У другой частцы публіка зрываецца на авацыю ці не паўтузіна разоў. І кожны раз на словах пра волю ці пра тырана. «Не быў хто вязнем — страціў многа!», «Чаму сядзіце ў балоце — бо звыкліся!».

У вобразах вязняў абазнанаму беларусу прачытаюцца цалкам рэальныя асобы Змітра Дашкевіча, Міколы Статкевіча, Паўла Севярынца, Алеся Бяляцкага. Мужныя хлопцы, а за кожным з дручком — жаўнер. Але ён ланцугі ўзняў: глядзіце, не цяжкія! Жыве мая радзіма!.. І гэта гучыць куды мацней за відавочнае і ўлобавае: «Жыве Беларусь!».

Жыве мая Радзіма! — праўдзіва і да слёз, — Жыве! — адгукаецца заля сэрцамі. А поруч чатыры жанчыны — іх жонкі… Прыгожыя пакутніцы, маўклівыя гераіні.

## Бел-чырвона-белыя анёлы

Сцэнограф Марыюс Яцоўскіс, мастак па касцюмах Надзея Гульцяева і кампазітар Фаўстас Латэнас стварылі бліскучыя дэкарацыі і музыку, якія ў сваю чаргу здолелі падкрэсліць містычны каларыт эмацыйна і знакава.

Цягам усёй пастаноўкі — яны падказвалі, акцэнтавалі, дапаўнялі, насычалі эмоцыямі. Аснову склалі натуральныя матэрыялы — дрэва, вада, сухавецце. Люстэркі, вада, шкло — усё, праз што можна ўбачыць духаў, душы, дзядоў.

Анёлы ў спектаклі носяць васільковыя стужкі ў валасах і снуюць белыя чырвоныя і зноў белыя ніці, якія выпростваюцца ў відарыс гістарычнага беларускага сцягу, адначасна яны сімвалізуюць і струны беларускай душы, якія напінаюцца альбо мякчэюць у залежнасці ад сітуацыі, што адбываецца з героямі.

Чэрці закоўваюць у кайданкі і ланцугі душы вальнадумцаў і паэтаў. І змагаюцца за душу Конрада, ён жа Густаў. Зрэшты, калі паміpae Густаў, нараджаецца Конрад. Калі ў першай частцы Густаў — звар'яцелы ад кахання паэт-ахвяра (ён, як Дантэ, незваротна і безадказна закаханы ў сваю Біятрычэ — Марысю), у другой частцы — ён паэт-змагар, што паўстае на Бога за Беларусь.

Як спяваў у адраджэнскія 1990-я Сяргей Сокалаў-Воюш: «Няхай яны крычаць, што з імі Бог! А з намі — Беларуская Зямля!». І як пісаў Уладзімір Караткевіч: «Хто за Край Свой Родны, за ўсе народы: паўстане нават на Бога!» І Паэт паўстае…

## Супраць тырана паўстае паэт

Маналогі маладога і таленавітага актора Рамана Падалякі — эмацыйныя, маладыя, гарачыя і сэнсоўныя. Часам нават карціць займець у іх паўзы ці цішыні для передыху, асэнсавання, але ён іх не дае.

Эмоцыя ўсе ярчэе, мурашы бягуць па спіне і дыханне гледача зрываецца разам з дыханнем Конрада. І ўжо здаецца, што Конрад крычыць не на Бога, а на цябе, на ўсё навокал. «Дай уладу, роўную тваёй! Свой народ ствару… — не просіць, а патрабуе ён у Звышняга, — Хачу душамі ўладарыць, як ты ўладарыш!» — і кідае чарнавікі сваёй паэмы ў абразы, у неба…

І, здаецца, яшчэ крыху — і Бог адкажа. Але Бог маўчыць. Узняўшыся на Бога, яго не могуць уратаваць нават малітвы, чытаныя ксяндзом (Сяргей Краўчанка), свечкі, абрады, а толькі малітвы і воля. І бел-чырвона-белыя анёлы. Адзінае яго апраўданне — «люблю ён многа і люблю ён многіх».

Супраць тырана паўстае ён — адраджэнец і паэт. І з парастка яго душы, які запальвае іншых, прарастае праз іх, паўстае цэлая зямля парасткаў яго аднадумцаў, зямля засланая белымі кашулямі, крывёю і сэрцамі, — зямля народжаных дзеля Беларусі.

СПАДЧЫНА

# У ЦЕНЮ МАЛОДШАГА БРАТА

Алесь КАЙРЫС, Алесь КІРКЕВІЧ

**Віктар Каліноўскі не стаў легендай сам, затое спрычыніўся да яе стварэння. Хто ведае, магчыма, калі б не заўчасная смерць, менавіта ён стаў бы на чале паўстання ў Беларусі, а Кастусь — ягоным найбліжэйшым паплечнікам і правай рукой.**




Калі размова заходзіць аб Паўстанні 1863–1864 гадоў, першая асоба, якая згадваецца, — Кастусь Каліноўскі. Нездарма для нас, беларусаў, яно даўно стала «Паўстаннем Каліноўскага».

«Адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863–1864 гадоў; рэвалюцыянер-дэмакрат, публіцыст, паэт…» Але мала хто задумваўся, чаму Канстанцін Каліноўскі стаў менавіта такім? Каго капіяваў Кастусь? Чым альбо кім ён натхняўся?

Сям'я Каліноўскіх была шматдзетнай. Пасля смерці першай жонкі, бацька Канстанціна Сымон Каліноўскі ажаніўся другі раз. Мачысе не было аніякай справы да дзяцей ад першага шлюбу Сымона, ды і бацька цікавіўся больш сваімі ткацкімі мануфактурамі. Ролю выхаваўцы для маленькага Кастуся ўзяў на сябе старэйшы брат — Віктар Атан, старэйшы за будучага лідара паўстання на 5 гадоў.

Пра жыццё Віктара Каліноўскага вядома няшмат, яго асобе прысвечана ўсяго некалькі артыкулаў. Найбуйнейшы належыць Вячаславу Шалькевічу.

Віктар нарадзіўся 9 (21) красавіка 1833 года там жа, дзе і Кастусь, — у Мастаўлянах (памежная вёсачка, зараз на тэрыторыі Польшчы). З 1841 па 1851 гады вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, якую пасля скончыў і малодшы брат. У 1852 годзе паступіў на медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Пасля — у Пецярбургу.

Медыцынская асвета не замяніла Віктару цікавіцца гісторыяй: па даручэнні Віленскай археалагічнай камісіі ён працаваў у Імператарскай публічнай бібліятэцы, адшукваў старадаўнія дакументы па гісторыі сваёй Бацькаўшчыны. Любоў да гісторыі і, верагодна, сваё бачанне, ён перадасць малодшаму брату.

У 1858–1862 гадах Віктар быў адным з кіраўнікоў нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі, якую складалі выхадцы з былой Рэчы Паспалітай у Пецярбургу. Ягоная падпольная дзейнасць сягала ад распаўсюду літаратуры сярод студэнтаў да непасрэднай вярбоўкі кадраў. Такім чынам, Віктар не быў, як часам падаецца, усяго толькі хваравітым кабінетным тэарэтыкам. За тое, што ён рабіў на практыцы, у тыя часы можна было лёгка апынуцца ў Сібіры...

У канцы 1850-х Віктар Каліноўскі працаваў у бібліятэцы Асалінскіх у Львове, у сценах якой фактычна пачалося нацыянальнае адраджэнне Галіччыны (з удзелам Шашкевіча, Вагілевіча і інш.). Віктар, у прыватнасці, дапамагаў супрацоўніку бібліятэкі, а пасля яе дырэктару Бялеўскаму (удзельніку Паўстання 1831 года) у выданні спадчыны гетмана Станіслава Жалкеўскага, навуковай працы «Monumenta Poloniae Historica».

Цягам працы ў Публічнай бібліятэцы ён складаў генеалагічныя даведкі для прыватных замоўнікаў, даследаваў гісторыю Кароны і ВКЛ, а таксама сялянскія бунты на гэтых землях. Не выпадковым падаецца тое, што Віктар падрыхтаваў да друку манаграфію «Уманская разня» (па-руску) пра паўстанне ў 1768 годзе сялян у г. Умань. Гэта акурат тое паўстанне, што апісаў апальны на той час Шаўчэнкам у сваіх «Гайдамаках. Так Віктар выкарыстоўваў гістарычны досвед суседняга народу для выпрацоўкі сваёй нацыянальнай канцэпцыі і тактыкі барацьбы.

Складальнік кніжных каталогаў, даследчык рукапісаў і фаліянтаў з часоў Вялікага Княства, адзін з аўтараў штодзённай польскамоўнай газеты «Siowo», якая выдавалася ў Пецярбургу і фактычна працавала на будучыя кадры Паўстання.

Увосень 1862 года Віктар захварэў на сухоты, з'ехаў да бацькі ў фальварак Якушоўка Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні, дзе напрыканцы кастрычніка і перарвалася ягонае кароткае жыццё. Ужо існавала Гродзенская рэвалюцыйная арганізацыя, друкавалася і разыходзілася «Мужыцкая Праўда», у фальварках ды маёнтках употай нарыхтоўвалася зброя, але ў 32 гады яго жыццё абарвала хвароба.

Віктар не дажыў да выбуху паўстання некалькі месяцаў, тым не менш, можна лічыць, прыняў у ім непасрэдны ўдзел. І няхай ягоныя рукі не сціскалі шаблі, ногі не тапталі эшафот, а імя не ўпрыгожыла падручнікі па гісторыі, увесь гэты шлях ён прайшоў праз асобу малодшага брата — Кастуся. Менавіта ён распавядаў падлетку пра рэвалюцыю ды прагрэс, падчас сваіх паездак да бацькоў у Якушоўку. Ён прывёў юнака ў расійскі рэвалюцыйны гурток у Пецярбурзе. Ён навучыў Кастуся любові да сваёй гісторыі і народу, які падымаў галаву на тле еўрапейскага нацыянальнага абуджэння.

Хто ведае, магчыма, калі б старэйшы брат працягваў жыць, менавіта ён стаў бы на чале паўстання ў Беларусі, а Кастусь стаўся б ягоным найбліжэйшым паплечнікам і правай рукой. Дый паўстанне магло б выглядаць інакш: Віктар быў значна больш разважлівым і спакойным, чым няўрымслівы халерык Канстанцін. Магчыма, гэта нагадвала б дуэт Бандэры з Шухевічам: палітыка-ідэолага з практыкам-паўстанцам. Магчыма, якасцяў Віктара акурат і не хапіла паўстанцам для перамогі…

У канцы жніўня 1864 года, праз некалькі месяцаў пасля гібелі Кастуся, у Гродна з Вільні прыходзіць ліст, у якім настойліва патрабуюцца звесткі аб месцы ды сведках пахавання Віктара Каліноўскага. Такіх дадзеных гродзенскія губернскія службоўцы даць не змаглі. Таму ў хуткім часе ў Свіслач едзе прадстаўнік следчай камісіі, каб пацвердзіць факт смерці Віктара Атана. Толькі пасля знаходкі магілы і чалавека, які яго непасрэдна хаваў, следства па справе Віктара лічыцца скончаным.

Следчыя наўрад ці маглі сабе ўявіць, што магіла брата кіраўніка паўстання, якую яны знайшлі, але не палічылі патрэбным знішчаць, стане сімвалам для нашчадкаў інсургентаў, і праз паўтара стагоддзі штогод напрыканцы кастрычніка, нягледзячы на дождж, холад і забароны з боку такіх жа беларусаў, але ў форме, на яе будуць прыходзіць людзі з кветкамі і зніччамі.

Каліноўскія, Луцкевічы, Гарэцкія… Праз праклёны і ману хай гэтыя імёны вечна зззяюць на небасхіле Беларускага Нацыянальнага Руху!




МОВА

# СПАЧАТКУ БЕЛАРУСКУЮ, ЗАТЫМ — АНГЛІЙСКУЮ!

Раман ЛАТУШКА

**Наколькі часта вам выпадала сустракаць у англійскіх тэкстах словы, што гучаць падобна да беларускіх, але не маюць такіх супадзенняў у рускай мове? Прапаную невялікую падборку лексічных адпаведнікаў у далёка не блізкароднасных мовах як сведчанне захавання заходнееўрапейскага культурнага коду ў глыбінях беларускай мовы.**

Унікальнае сярэдзіннае становішча беларускай мовы на памежжы заходняй каталіцкай і ўсходняй праваслаўнай культур дае выйгрышную магчымасць у параўнанні з нашымі суседзямі хутчэй аваладаць іншымі замежнымі мовамі. У тым ліку і паўсюдна запатрабаванай англійскай.

З агульнай крыніцы, як правіла лацінскай, абедзве мовы, беларуская ў асноўным праз пасярэдніцтва польскай (вынік працяглага суіснавання ў адной дзяржаве), узбагаціліся пэўным аднолькавым комплексам словаў, як, напрыклад, paper — папера, letter — літара, honor — гонар, diamond — дыямент, verse — верш, cost — кошт, amateur — аматар.

Некаторыя падобныя словы існуюць у канфліктным полі класічнага і афіцыйнага беларускага правапісу, як vacation — вакацыі, balloon — балонік (шарык), bubble — бурбалка (пузыр), diary — дыярыюш (дзённік), embassy — амбасада (пасольства), map — мапа (карта), pearl — перліна (жамчужына), pump — помпа (насос), strike — страйк (забастоўка), valise — валіза (чамадан) ды іншыя.

У межах заходняй традыцыі знаходзіцца і найбліжэйшая да нашай (аб'ём агульнай лексікі часам даводзяць ці не да 90%) украінская мова, у якой таксама наяўныя падобныя супадзенні з англійскай: abruptly — раптово (раптоўна), palace — палац, private — приватний (прыватны), natural — натуральний (натуральны), raisin — родзинка (разынка), rest — решта (рэшта), color — колір (колер), sugar — цукор (цукар), oil — олія (алей), note — нотатка (нататка), serviette — серветка (сурвэтка), sense — сенс (сэнс) ды некаторыя іншыя.

Характарныя ж для моладзевага слэнгу словы «файна» ды «цішотка» (у значэнні «майка», «саколка») паўсталі на аснове гукавога адаптавання адпаведна англійскіх fine і t-shirt.

Судакранаюцца ў сваіх значэннях словы herb tea — травяная гарбата, red — руды, knot — матузка, шнурок ~ кнот, screen — засланяць, накрываць; эл. ізаляцыя ~ скрынка, scissors — нажніцы ~ сцізорык.

І гэты спіс можа і надалей папаўняцца.

Адно дакладна: перад тым, як брацца за адужанне прэстыжнай англійскай, варта напачатку даць рады з роднай беларускай. Якімі б каламбурнымі і псеўдафілалагічнымі не ўяўляліся пададзеныя тут пары слоў.

## Слоўнічак

abruptly — раптоўна
amateur — аматар
article — артыкул
balloon — балонік
bubble — бурбалка
cannon — канон
color — колер
cost — кошт
diamond — дыямент
diary — дыярыуш
embassy — амбасада
fine — файны
gum — гумка
herb tea — гарбата
honor — гонар
knot — матузка, шнурок ~ кнот
letter — літара
literally — літаральна
map — мапа
natural — натуральны
note — нататка
offering — ахвяраванне
oil — алей
palace — палац
paper — папера
pearl — перліна
private — прыватны
pump — помпа
raisin — разынка
red — руды
rest — рэшта
sense — сэнс
serviette — сурвэтка
strike — страйк
sugar — цукар
t-shirt — цішотка
vacation — вакацыі
valise — валіза
verse — верш
view — выява

МУЗЫКА

# ПОМНІК ПАКУТНІКАМ У МАЛАДЗЕЧНА ПАД ПАГРОЗАЙ

Марат ГАРАВЫ

**Помніку «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі» ў Маладзечне пагражае чарговы здзек, бо камень, нібыта, замінае добраўпарадкаванню парка.**




Гісторыя помніка вядзе свой адлік ад 27 сакавіка 1993 года. Тады на Цэнтральнай плошчы Маладзечна ў гонар 75-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі быў урачыста адкрыты першы ў краіне помнік беларусам, якія ахвяравалі сабой дзеля волі і незалежнасці Бацькаўшчыны.

Як распавёў НЧ мясцовы дэмакратычны актывіст, былы настаўнік, арганізатар узвядзення помніка Лявон Цімохін, вялікі светла-шэры гранітны камень з чырвонымі атожылкамі, прывезены з ГУЛАГаўскай каменяломні Беламорканалу. Яго ўпрыгожылі шасціканцовы праваслаўны крыж святой Ефрасінні Полацкай і дошка з паліраванага чорнага граніту з тэкстам: «Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі». Цікава, што камень быў усталяваны насупраць помніка Уладзіміру Леніну.

У адкрыцці мемарыялу, асвечанага святарамі ўсіх хрысціянскіх дэнамінацый, удзельнічалі мэр гораду, дэпутат Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка і тысячы мясцовых вернікаў-хрысціянаў.

На Цэнтральнай плошчы Маладзечна помнік прастаяў 18 гадоў і стаў не толькі гарадской, але і нацыянальнай славутасцю. Але ноччу 12 красавіка 2011 года пастамент помніка ўзарвалі, камень патаемна перанеслі прыкладна на 100 метраў на ўзбочыну дарогі каля гатэлю «Маладзечна» і схавалі пад тканіну. А на месцы помніка гарадскія ўлады ўсталявалі пластычную кампазіцыю, якая сімвалізуе Купалле. Пры гэтым чыноўнікі матывавалі свае дзеянні добраўпарадкаваннем і перапланаваннем Цэнтральнай плошчы горада напярэдадні «Дажынак».

Перад самым святам ураджаю помнік перанеслі яшчэ на 250 метраў і ўсталявалі каля перакрыжавання вуліц імя Пятра Машэрава і Вялікі Гасцінец недалёка ад агароджы гарадскога парку.

Лявон Цімохін падкрэсліў, што асвечаны святарамі помнік, згодна з хрысціянскай традыцыяй, можа быць перанесены толькі са згоды і з удзелам вернікаў-хрысціянаў і святароў.

«Дарэчы, на Цэнтральнай плошчы, дзе раней стаяў мемарыяльны камень, некалі ўзвышаўся вялікі каменны крыж, зруйнаваны камуністамі пасля Другой сусветнай вайны. Тады хрысціянская святыня была апаганена і разбурана. У сённяшняй сітуацыі помнік ахвярам за волю і незалежнасць Беларусі ў Маладзечне можа быць зноў патаемна перанесены. Мы, хрысціяне, выступаем супраць магчымага апаганьвання мемарыялу нашым продкам», — сказаў Лявон Цімохін.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПАМЕЖНЫЯ ЗНАКІ ВАКОЛ КУРАПАТАЎ

Марат ГАРАВЫ

**Вакол Курапатаў усталяваны 5 знакаў на мяжы народнага мемарыялу.**




Прычым тры з іх знаходзяцца на заходнім баку ўрочышча паміж шашой Заслаўе-Калодзішчы і Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогай, а два — на ўсходнім баку Курапатаў паміж шашой Заслаўе-Калодзішчы і МКАД.

Памежныя знакі ўяўляюць сабой рознага памеру і формы вялікія валуны, на паліраванай частцы вонкавага баку якіх — выява ахоўнага знаку помніка гісторыі і археалогіі міжнароднага значэння з гербам Рэспублікі Беларусь і тэкстам: «Гісторыка-культурная каштоўнасць. Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій. 1930–1940-я гады. Прычыненне шкоды караецца па закону». Акрамя таго, унізе на вонкавым баку валуноў высечаны памятныя даты: «1937–1941», на якія прыйшліся найбольш масавыя расстрэлы ахвяраў сталінізму ва ўрочышчы. На ўнутраным баку камянёў змешчаны шасціканцовы крыж найсвяцейшай Ефрасінні Полацкай — нябеснай заступніцы Беларусі.

Трэба адзначыць, што памежныя знакі зроблены вельмі прафесійна — якасна, з душою. Можна толькі ўявіць, якіх высілкаў патрабавалі працы па пошуку валуноў, іх дастаўцы, апрацоўцы (для таго, каб нанесці на камяні выявы ахоўных знакаў помніка, некаторыя валуны давялося распілаваць), аздабленню і ўсталёўцы.

Пакуль не вядома, хто ажыццявіў гэты высакародны грамадскі праект. Адно зразумела — устаноўка памежных знакаў прымеркавана да 25-годдзя адкрыцця Курапатаў — публікацыі знакамітага артыкулу Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці».

Каментуючы гэтую падзею, культуролаг Вацлаў Арэшка назваў яе «добрай справай», якая дазваляе кожнаму наведвальніку ўрочышча ўявіць межы народнага мемарыялу ў Курапатах. «Гэтая падзея — добры знак, які дае надзею на зрухі ў пошуку згоды паміж грамадствам і дзяржавай. Прычым, памежныя знакі не толькі нагадваюць пра абавязкі чыноўніцтва па ахове гэтага помніка, але і даюць надзею на супрацоўніцтва грамадскасці з тымі прадстаўнікамі ўладаў, якія жадаюць лепшай долі сваёй Бацькаўшчыне», — падкрэсліў Вацлаў Арэшка.

КАНФЕРЭНЦЫЯ

# ДА 25-ГОДДЗЯ АДКРЫЦЦЯ КУРАПАТАЎ

Марат ГАРАВЫ

**3 чэрвеня адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 25-годдзю адкрыцця Курапатаў, арганізаваная грамадскай ініцыятывай «За ўратаванне мемарыялу Курапаты».**



Менавіта 3 чэрвеня 1988 года ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» быў апублікаваны знакаміты артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва «Курапаты — дарога смерці».

Вядомы беларускі паэт, публіцыст і грамадскі дзеяч тагачасны галоўны рэдактар «ЛіМу» Анатоль Вярцінскі нагадаў, што Васіль Быкаў назваў Пазняка і Шмыгалёва аўтарамі, якія здзейснілі «свой людскі абавязак перад народам і гісторыяй».

Улады БССР адэкватна зрэагавалі на публікацыю, і праз 11 дзён рашэннем ураду пад старшынствам намесніка старшыні Савета міністраў Ніны Мазай была створана адпаведная камісія па факту расстрэлаў у лясным масіве Курапаты. «У той жа дзень, 14 чэрвеня, генеральны пракурор БССР Георгій Тарнаўскі па гэтаму ж факту распачаў крымінальную справу — першую на тэрыторыі СССР. А на пачатку ліпеня ў Курапатах пачалі працаваць афіцыйна вызначаныя эксперты і археолагі (Зянон Пазняк, Мікола Крывальцэвіч і Алег Іоў). Па выніках іх раскопак з'явілася публікацыя «Шумяць над магіламі сосны», — сказаў Вярцінскі.

Вядомы даследчык Ігар Кузняцоў назваў «недапушчальнымі» любыя спробы прыватызацыі, фальсіфікацыі гісторыі Курапатаў і, ўвогуле, мінулага сталінскіх рэпрэсій.

Кінадраматург і грамадскі дзеяч Уладзімір Халіп распавёў пра гісторыю стварэння ў 1988 годзе дакументальнай стужкі «Дарога на Курапаты» (рэжысёр Міхась Ждапоўскі, аўтар сцэнару Алесь Лукашук, аператар Сяргей Пятроўскі), уганараванай Дзяржаўнай прэміяй Беларусі 1994 года.

Як адзначыў Халіп, у 1988 годзе ён быў мастацкім кіраўніком студыі «Летапіс» на «Беларусьфільме». «І да мяне з артыкулам «Курапаты — дарога смерці» прыйшлі Ждапоўскі з Лукашуком і прапанавалі зрабіць фільм пра гісторыю ўрочышча. Але для гэтага трэба было напісаць заяўку, зацвердзіць яе ў Дзяржкіно СССР і чакаць уключэння ў творчы план. Але паколькі на студыі было 260 метраў каляровай кінаплёнкі на нечаканыя здымкі, я аддаў гэтую плёнку Ждапоўскаму і Пятроўскаму. Тое, што яны знялі ў Курапатах, — піраміды чарапоў з прабітымі патыліцамі, — выклікала жах больш, чым знакамітае палатно Васіля Верашчагіна «Апафеоз вайны». На фільм далі дабро дырэктар студыі і Дзяржкіно СССР. І гэта было вялікае шчасце, бо ў БССР усе тады сталі сцяной супраць такой стужкі — ад цакоўцаў да мінкультаўцаў. Мы ўпершыню атрымалі дазвол на вытворчасць поўнаметражнай 50-хвілінnай стужкі», — сказаў Халіп.

«Але міністр культуры Аляксандр Сасноўскі загадаў схаваць гэтую стужку ў сейф і нідзе не паказваць. На гэтым скончылася беларуская гісторыя фільму «Дарога на Курапаты». І толькі дзякуючы таму, што аператар фільма, светлай памяці Сяргей Пятроўскі схаваў пад ложкам адну копію гэтай легендарнай стужкі, яна дайшла да беларускага гледача», — падкрэсліў Халіп.

Сярод найбольш пераканаўчых момантаў стужкі ён назваў кадры, у якіх зафіксаваны следчы, які адчыняе сейф з партрэтам Іосіфа Сталіна на ўнутраным баку, а таксама настальгічныя ўспаміны былога простага шафёра НКУС пра «выдатнае жыццё» ў часы, калі ён адвозіў людзей на расстрэл у Курапаты. «Такія простыя людзі стукалі, пісалі даносы на суседзяў, ахоўвалі іх у ГУЛАГу і расстрэльвалі, а пасля дзялілі між сабою маёмасць ахвяраў і пражывалі яе, не задумваючыся пра страшэнны грэх саўдзелу ў злачынствах. І ўлады нічога не зрабілі б без такіх так званых «простых людзей», якія проста не вераць, што дабро можа перамагчы зло ў гэтай краіне», — адзначыў Халіп.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 654

Падпісана да друку 07.06.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча